# ВАЦЛАЎ ГАВЭЛ

# СВЯТА Ў САДЗЕ

*Прысвячаецца*
*Яну Гросману*



П'еса
ў чатырох дзеях

## ДЗЕЙНЫЯ АСОБЫ

Гуга Плудэк.
Олдржых Плудэк, яго бацька.
Бажэна Плудкава, яго маці.
Пётра Плудэк, яго брат.
Амалька.
Фэрда Пыльзак, распарадчык.
Ліквідатар.
Ліквідатарка.
Дырэктар Распарадчай службы.

# ДЗЕЯ ПЕРШАЯ

Кватэра Плудэкаў. У пакоі Плудэк, Плудкава, Пётра і Гуга. Гуга гуляе ў шахматы — вядома ж, сам з сабою: пасля кожнага ходу ён ідзе на другі бок дошкі, задумваецца, пасля робіць ход у адказ.

Плудэк *(да Гугі)*. Дарагі сыне! *(Да Плудкавай.)* Пачынаць?

Плудкава. Колькі часу?

Плудэк. Дванаццатая.

Плудкава. Ужо? Пачынай!

Плудэк. Дарагі сыне!

Гуга *(робіць ход)*. Шах! *(Ідзе на другі бок дошкі.)*

Плудэк. Дык што, гуляеш, гуляеш?

Гуга. Гуляю, тата.

Плудэк. Ну і як гуляецца?

Гуга. Кепска, тата, кепска.

Плудкава. Пётра, ты, можа, пакуль што лепш пасядзеў бы ў склепе?

Пётра выходзіць.

Неўзабаве з'явіцца Калабіс; толькі таго й не хапала, каб ён тут сутыкнуўся з Пётрам! Усе кажуць, што Пётра сваім выглядам падобны да буржуазнага інтэлектуала — навошта табе праз яго мець непрыемнасці!

Плудэк. І праўда, Божка! Я ж, д'ябал усіх бяры, з простых сялян, нас было шасцёра дзяцей! Маю пяць бедных родзічаў!

Плудкава. Пётра — паршывая авечка ў сям'і!

Плудэк. Пётра — паршывая авечка. *(Да Гугі.)* Дарагі сыне! Апірышча народа — сярэднія класы. Ці ведаеш чаму? Вядзьмарка сама насенне на гарышча не носіць! Вунь Яраш хацеў зрабіцца ювелірам — і зрабіўся. Ты неўзабаве скончыш школу. Ці спытаўся ты ў сябе?..

Гуга. Не, тата, не спытаўся.

Плудэк. Ці чула ты, Бажэна?

Плудкава. Супакойся, Олда! Ніхто не званіў?

Плудэк. Не.

Плудкава. Паслухай, Олдржых...

Гуга робіць ход і ідзе на другі бок дошкі.

Ну і як гуляецца?

Гуга. Добра, мама.

Плудэк. Дык што?

Плудкава. Колькі часу?

Плудэк. Першая.

Плудкава. Ён мусіў бы ўжо быць...

Плудэк. Відаць, нешта яго затрымала.

Плудкава. Як гэта — затрымала?

Плудэк. Можа, спаткаў каго і разгаварыўся.

Плудкава. Каго ж?

Плудэк. Сябра па войску.

Плудкава. Ты ж казаў, што ён у войску не быў!

Плудэк. Вось бачыш! Нікуды ён не падзенецца! Пачынаць?

Плудкава. Добра, каб... Пачынай!

Плудэк. Дарагі сыне! Апірышча народа — сярэднія класы. Ці ведаеш чаму? Прывыкшы біцца за камарыныя соты, не пойдзеш таньчыць з казою ў Падмоклі. Яраш заўсёды казаў: жыццё — гэта кніга з чыстымі аркушамі. Ці ты і напраўду не задумваўся, чым яе запоўніць?

Гуга. Не, тата.

Плудэк. Ці чула ты, Бажэна?

Плудкава. Супакойся, Олда! Ніхто не званіў?

З'яўляецца Пётра.

Плудэк. Не. *(Да Гугі.)* Дарагі сыне! *(Да Плудкавай.)* Пачынаць?

Плудкава. Колькі часу?

Плудэк. Другая.

Плудкава. Ужо? Пачынай!

Плудэк. Дарагі сыне!

Гуга *(робіць ход)*. Шах! *(Ідзе на другі бок дошкі.)*

Плудэк. Дык што, гуляеш, гуляеш?

Гуга. Гуляю, тата.

Плудэк. Ну і як гуляецца?

Гуга. Кепска, тата, кепска.

Плудкава. Пётра, ты б, можа, пакуль што пасядзеў на гарышчы?

Пётра выходзіць.

Хай бы ён быў звычайны інтэлектуал — д'ябал з ім, інтэлектуалы цяпер, здаецца, узаконеныя, дык не, ён задумаў зрабіцца якраз буржуазным!

**Плудэк.** Гэта ён знарок! *(Да Гугі.)* Дарагі сыне! Нават кёльнскія гусары не ходзяць па лясах без каўняроў. Яраш думаў пра сваю будучыню і дзеля таго вучыўся, вучыўся і вучыўся. А ты ці задумваўся пра сваю будучыню?

**Гуга.** Не, тата.

**Плудэк.** Дык пра што ты тады задумваўся?

**Гуга.** Я вучыўся, тата.

**Плудэк.** Ці чула ты, Бажэна?

**Плудкава.** Супакойся, Олда! Ніхто не званіў?

**Плудэк.** Не.

**Плудкава.** Паслухай, Олдржых...

Гуга робіць ход і ідзе на другі бок дошкі.

Ну і як гуляецца?

**Гуга.** Добра, мама.

**Плудкава.** Колькі часу?

**Плудэк.** Трэцяя.

**Плудкава.** Ён бы мусіў ужо быць...

**Плудэк.** Відаць, яго нешта затрымала.

**Плудкава.** Як гэта — затрымала?

**Плудэк.** Можа, спаткаў каго і загаварыўся...

**Плудкава.** Каго ж?

**Плудэк.** Сябра маленства...

**Плудкава.** Ты ж ведаеш, што ў яго не было маленства!

**Плудэк.** Маленства не было, а сябры маленства — былі! Ці ты, можа, скажаш, што я — не сябар яго маленства?

**Плудкава.** Але ж цябе ён не мог спаткаць?

**Плудэк.** Вось бачыш! Нікуды ён не падзенецца! Пачынаць?

**Плудкава.** Добра каб... Пачынай!

**Плудэк.** Дарагі сыне! Хто ведае, дзе ў чмяля джала, таму штаны ніколі закароткія не будуць. Яраша памянеш — Яраш і адгукнецца, у гэтым увесь цымус. У жыцці важнейшы за ўсё погляд на жыццё. Мяркуеш, што нехта пазычыць табе свой?

**Гуга.** Але, тата. Яраш. *(Робіць ход.)* Шах! *(Ідзе на другі бок дошкі.)*

**Плудэк.** Ці ты чула, Бажэна?

**Плудкава.** Супакойся, Олда! Дарагі Гуга! Без тапарышча і на вяршок не закапаеш. Таму твой бацька і паклікаў сёння... ну, дык спытайся ў бацькі, каго ён паклікаў сёння!

**Гуга.** Тата, каго ты паклікаў сёння?

Плудэк. Калегу Калабіса! Ну, спытайся ў маці, хто такі калега Калабіс!

Гуга. Мама, хто такі калега Калабіс?

Плудкава. Школьны сябрук твайго бацькі! Ну, спытайся ў бацькі, што ён рабіў хлопчыкам разам з калегам Калабісам?

Гуга. Тата, што ты рабіў хлопчыкам разам з калегам Калабісам?

Плудэк. Мы разбівалі шыбы!

Плудкава. Прычым у багатых сялян.

Плудэк. Во-во. А спытайся ў маці, кім цяпер стаў калега Калабіс!

Гуга. Мама, кім цяпер стаў калега Калабіс?

Плудкава. На-мес-ні-кам! І твой бацька паклікаў яго...

Плудэк. ...каб ён згуляў з табою ў шахматы...

Плудкава. ...і пры нагодзе...

Плудэк. ...параіў табе...

Плудкава. ...сказаў так, да ведама...

Плудэк. ...як бы ты мог...

Плудкава. ...сёе-тое...

Плудэк. ...у жыцці...

Плудкава. Разумееш, нават вядзьмарка не ходзіць па лясах без каўняра!

Плудэк. Альбо, можа, ты бачыў, каб кёльнскія гусары самі насілі насенне на гарышча?

Гуга. Не бачыў, тата.

Плудэк. Вось бачыш! Ніхто не званіў?

Плудкава. Не.

Гуга робіць ход і ідзе на другі бок дошкі.

Ну і як гуляецца?

Гуга. Добра, мама. *(Робіць ход.)* Шах! *(Ідзе на другі бок дошкі.)*

Плудэк. Ну і як гуляецца?

Гуга. Кепска, тата, кепска. Вельмі кепска!

Гуга робіць ход і ідзе на другі бок дошкі.

Плудкава. Ну і як гуляецца?

Гуга. Цудоўна, мама! *(Робіць ход.)* Мат!

Плудэк. Што — прайграў?

Гуга. Не, выйграў.

Плудкава. Што — выйграў?

Гуга. Не, прайграў.

Плудэк. Дык выйграў ці прайграў?

Гуга. Тут выйграў, а тут прайграў...

Плудкава. Калі ты тут выйграеш, дык тут прайграеш?

Гуга. А калі я тут прайграю, дык тут я выйграю.

Плудэк. Бачыла, Божка? Замест таго каб выйграць — дык выйграць, а прайграць — дык прайграць, ён лепей недзе крышку выйграе, а недзе — трохі прайграе.

Плудкава. Такі гулец пойдзе далёка!

Плудэк. Праўда! Раску без пёрка не засмажыш. А чаму? Калі на паваротах гісторыі розныя класы грамадства мяняюцца ролямі, дык сярэднія класы пераадольваюць гэтыя выпрабаванні без праблем, бо іншыя класы не імкнуцца заняць іхняга месца — так што сярэднім класам проста няма з кім мяняцца, і, у выніку, яны робяцца адзінай пасапраўднаму стабільнай сілай гісторыі. З гэтае прычыны, мой сыне, сярэднія класы надаюць гісторыі еднасці і цэласнасці і якраз робяць яе гісторыяй! Таму найбольш удалыя яе часіны — гэта тыя, што даспелі, каб абапірацца на сярэднія класы, і аддаюць у рукі апошніх свае ідэалы, каб яны ад гэтага часу клапаціліся пра іх як пра свае ўласныя, перадаўшы наступным пакаленням. Без сярэдніх класаў папросту не можа існаваць ніводная эпоха, і, разам з тым, самі сярэднія класы існуць незалежна ад эпохі. А бывае, што і без яе! Ці ты мяркуеш, што зручна страляць па канюках і мець пры гэтым стайню ў Глухаве? То ж бо яно! І адзіная краіна...

Плудкава. Колькі часу?

Плудэк. І адзіная краіна, што можа пражыць без сярэдніх класаў — гэта Японія...

Плудкава. Колькі часу?

Плудэк. І адзіная краіна, што можа пражыць без сярэдніх слаёў — гэта Японія, бо японцаў пакуль што і без таго...

Плудкава. Колькі часу?

Плудэк. І адзіная краіна, што можа пражыць без сярэдніх слаёў — гэта Японія, бо японцаў пакуль што і без таго не бракуе. Але Японія...

Плудкава. Колькі часу?

Плудэк. Пятая. Але Японія...

Плудкава. А калі ён абяцаў прыйсці?

Плудэк. А дванаццатай. Але Японія — што гэта я хацеў сказаць пра Японію?

Гуга. Ты, напэўна, хацеў сказаць, што, калі своечасова не ацаніць ролі сярэдніх класаў у гісторыі, прыйдуць японцы, якіх пакуль што і без таго не бракуе, прагоняць сярэд-

нія класы з гістарычнай арэны і адправяць у Японію.

Плудкава. А дванаццатай? А раптам ён не прыйдзе?

Плудэк. Слушна, Гуга! Крый цябе Божа перажыць гэты жудасны дзень! *(Да Плудкавай.)* Калі не прыйдзе ён, прыйдзе хто-небудзь іншы!

Плудкава. Ніхто не прыйдзе! Ніхто не напіша! Ніхто не затэлефануе! Мы адны! Адны на ўсім белым свеце!

Звініць званок.

Гуга. А японцаў чым далей, тым больш. Здаецца, звоняць?

З'яўляецца Пётра.

Плудкава. Пётра, ану ў камору! Калабіс за дзвярыма!

Пётра знікае, з'яўляецца Амалька.

Вам што, даражэнькая?

Амалька. Я нясу вам, пані...

Усе. Пісьмо!

Амалька. Тэлеграму!

Плудэк. Ну, чытайце ўжо!

Амалька *(чытае)*. ДАРАГІ ОЛДРЖЫХ КСК ПРЫЙСЦІ НЕ МАГУ КРП ЗАПРОШАНЫ СЁННЯ УВЕЧАРЫ СВЯТА САДЗЕ ЛІКВІДАЦЫЙНАГА КАМІТЭТА КРП Ці Вы паспелі, Ганначка? Ці Вам не холадна? А што? Зразумела. А палове восьмай, але толькі не маніць! Можна працягваць? ШКАДУЮ КСК СПАДЗЯЮСЯ КСК СУСТРЭНЕМСЯ ІНШЫМ РАЗАМ КРП Вельмі! Вам страшэнна да твару! Гэтаксама выступала і Кантуркава, памятаеце, на рагу. «Вечна пяюць лясы». А ў нядзелю можна выехаць па чарніцы, а? СЯБРОЎСКІМ ПРЫВІТАННЕМ — Ды годзе ўжо вам! Вы ж не з парцаляны! — ФРАНТА КАЛАБІС КРП

Плудэк. Не прыйдзе. Гэта — наш канец! Божка, нас ніхто не любіць!

Плудкава. Не трэба істэрыкі, Олдржых! Калі ён не ідзе да Гугі... кск... дык няхай Гуга ідзе да яго!..

Плудэк. Куды?

Плудкава. На свята ў садзе!

Плудэк. На свята ў садзе! Гуга! Шыявяз, пінжак!

Амалька. Ну, я тады іду... Да пабачэння, значыцца...

У Амалькі няма жадання сыходзіць са сцэны, яна марудзіць.

Плудкава. Нічога, даражэнькая! Я напачатку выконвала і больш сціплыя ролі.

Амалька. То, пані, былі, аднак, іншыя часіны!

Амалька выбягае са сцэны.

Плудэк. Спадзяюся, Гуга трымаецца з ёю ў межах...

Плудкава. Ці ты, Олдржых, не забыўся, што яна дворнікава дачка?

Плудэк. Тым больш!

Плудкава. А ты, Олдржых, ці не забыўся, які час на дварэ?

Плудэк. Калі так, Гуга заўтра ж прагуляецца з ёю пад руку!

Плудкава. То ж бо яно! Гуга! Шыявяз, пінжак — і марш на свята!

Гуга. Але ж я мушу адыграцца...

Плудэк. Ці чула ты, Божка? Карміў, карміў хамяка, аж во жалейка ўпала ў чарот — і ўсё! Каб Яраш ведаў пра гэта! Адыграцца! Калі чалавечы лёс на шалях! Будучыня сям'і!

Плудкава. Гуга, бацька пра сям'ю гаворыць, а ты нават падняцца не можаш!

Плудэк. Анягож! Прайшоў той час, калі падымаліся! Абодва тады былі дзеці малыя... гойсалі басанож... лавілі матылькоў... чыталі Браніслававы вершы... мы пеставалі іх, як маглі... кавалка не даядалі праз іх...

Плудкава. Супакойся, Олда! Гуга! Жыццё — вялікая шахматная дошка... Ці гэта табе ні пра што не гаворыць?

Гуга. Гаворыць, мама. Тапарышчам ні на вяршок не закапаеш. Шыявяз... пінжак...

Плудэк і Плудкава пяшчотна цалуюць Гугу.

Плудкава. Дурасліўчык ты маленькі!

Плудэк. Дарагі сыне! Жыццё — не поле, а ты — не ваяр. Уласна кажучы, ты — чэх. Дзе вытрываеш — там і я вытрываю, дзе здрадзіш, там здрадзіш; дзе ўсе будуць — там і мы будзем: ты — мой сын! Хто заблукаў у каноплях, таму дай Божа розуму ў Празе — і няхай будзе тое, што будзе, ва Усебудове! Ты — Плудэк! З Богам! А інакш...

Гуга выходзіць, з'яўляецца Пётра,
усе замілавана сочаць за постаццю, якая аддаляецца.

Плудкава. Падоўжся, о цудоўны міг!
Ніпто не вечна на лугах зямных.
Расстанне: пацалункі, хустка — і званок.

Ці вернецца да нас ён, Олда?
Але! Адчуўшы радасць ціхай стомы,
Шапне: як добра зноў быць дома!

Плудэк *(пяе)*. Ужо каня мне запрагаюць...

Плудкава. Олдржых...

Плудэк. Што?

Плудкава. Ці памятаеш тое лета ў Лугачовіцах? Колькі шалёных планаў тады было ў нашых галовах! Ты збіраўся вучыцца... працаваць... кіраваць... Пётра, куды ты зноў ляціш? Ні хвіліны не можаш пабыць у коле сям'і.

Пётра выходзіць.

Трэба набрацца духу, Олда... Разумееш, адарвацца ад зямлі, распрастаць крылы, карацей кажучы, жыць! Ага, жыць, жыць... у нас будзе новае, лепшае жыццё!

Плудэк. Аброк аброкам, а гарох гарохам. Новае жыццё? Д'ябал усіх забяры, гэта нам пад сілу!

КАНЕЦ
ПЕРШАЙ ДЗЕІ

# ДЗЕЯ ДРУГАЯ

Уваход у сад, дзе адбываецца свята Ліквідацыйнага камітэта.
Пры століку, заваленым паперамі, пячаткамі і інш.,
сядзяць Ліквідатар і Ліквідатарка, выконваючы функцыі
дзяжурных арганізатараў.
З'яўляецца Гуга.

Гуга. Дзень добры! Аброк аброкам, а гарох гарохам. Ці ёсць калега Калабіс?

Ліквідатар. Калабіс Ёзэф, які нарадзіўся 2 студзеня 1940 года, Калабіс Вацлаў, які нарадзіўся 18 чэрвеня 1891 года, ці Калабіс Францішак, які нарадзіўся 4 жніўся 1919 года?

Ліквідатарка. Калабіс Францішак, які нарадзіўся 4 жніўня 1919 года, адпрасіўся. Ён чытае лекцыю пра будучыню чалавецтва на сходзе жыхароў дома.

Ліквідатар. Ці не жадаеце зняць пінжак і гальштук.

Ліквідатарка. Вы стаіцё каля галоўнага ўвахода «Б-13». Тут вы можаце набыць адзіны ўваходны білет, які дазваляе беспераашкодна рухацца па тэрыторыі саду і на-

ведваць усе мерапрыемствы ў межах свята Ліквідацыйнага камітэта...

**Ліквідатар.** Такія, як гутарка начальніка аддзела развіцця пра новыя метады ліквідацыі ў жывапіснай мясцовасці каля сажалкі...

**Ліквідатарка.** Гумарыстычная віктарына па гісторыі Ліквідацыйнага камітэта ў альтанцы нумар тры...

**Ліквідатар.** Або слуханне вясёлых гісторый з практыкі пятага аддзела, якія запісаў і зачытаў начальнік пятага аддзела...

**Ліквідатарка.** Дзе і вам могуць даць слова для выступлення, калі вы не пазней як за два месяцы да пачатку свята падалі яго поўны тэкст з візай праforга і з медыцынскай даведкай у сакратарыят Аддзела гумару і ў камісію ідэалагічнага кантролю.

**Ліквідатар.** Атрымаўшы допуск у Аргкамітэце, вы таксама можаце патанцаваць у Вялікай зале «А» ад паловы дванаццатай да дванаццатай і пасля ад дванаццаці сарака пяці хвілін да паловы другой. Перад гэтым Вялікая зала «А» будзе аддадзена ліквідацыйна-метадычнай сесіі, у перапынку — камісіі народных ліквідатараў, а пасля таго — падкамісіі па размежаванні.

**Ліквідатарка.** Калі ж вы пажадаеце выкарыстоўваць забаўляльны рэквізіт, напрыклад: папяровыя каўпакі, кардонныя насы і іншае, вы можаце пазычыць іх праз сакратара вашага аддзела ў сховішчы і потым забаўляцца гэтым у межах Малой залы «В».

**Ліквідатар.** Зразумела, не парушаючы чаргі, якая ўжо з раніцы стаіць перад уваходам у Малую залу «В» і якой, на жаль, немагчыма пазбегнуць з прычыны вялікай колькасці тых, хто жадае забаўляцца, выкарыстоўваючы забаўляльны рэквізіт, і з прычыны недастатковай умяшчальнасці Малой залы «В».

**Ліквідатарка.** Хто дысцыплінаванейшы ў чарзе, той будзе хутчэй на чарзе.

**Гуга.** Даруйце, але Малая зала «В», напэўна, меншая за Вялікую залу «А». Ці нельга аддаць пад забаўляльны рэквізіт Вялікую залу «А», а пад танцы камісій — Малую залу «В»? Навошта лезці сваім носам у драўніну, калі й сітаўка сама спявае? Шах!

*Ліквідатар і Ліквідатарка пераглядваюцца.*

**Ліквідатарка.** На першы погляд, у гэтым ёсць свая логіка...

Ліквідатар. На жаль, толькі фармальная...

Ліквідатарка. Але сутнасць прапановы сведчыць пра элементарнае няведанне некаторых найважнейшых прынцыпаў.

Ліквідатар. Хіба ж вы пагадзіліся б з тым, каб спакойны ход свята парушаўся нейкім дадаісцкім выскаляннем, без якога, напэўна ж, не абыдзецца, калі аддаць такі важны, можна сказаць, галоўны пункт, як Вялікую залу «А», неабавязковым элітарнікам?

Ліквідатарка. Чаму вы, дарэчы, лічыце, што Вялікая зала «А» большая за Малую залу «В»? Навошта ўвесь час хлусіць самім сабе?

Ліквідатар. У Аргкамітэце, напэўна, ведалі, што робяць, калі прызначалі для забаўляльнага рэквізіту Малую залу «В»!

Ліквідатарка. Можа, вы не давяраеце рашэнням Аргкамітэта...

Ліквідатар. Да якога належаць найлепшыя людзі Ліквідкама?..

Ліквідатарка. Старэйшыя, дасведчаныя калегі, якія, калі вас яшчэ і на свеце не было, самаахвярна ліквідоўвалі...

Ліквідатар. У варунках, якіх вашае пакаленне зусім не ведае.

Заходзіць Пыльзак.

Пыльзак. Ну, што новага ля ўвахода? Як адпачываеце? Як гутарка? Спадзяюся, наладзілася? Свята ў садзе — забава ўсіх!

Ліквідатар. Дзякуй, наладзілася...

Ліквідатарка. Наладзілася...

Пыльзак. Ну і цудоўна! Увогуле, цудоўна, што вы тут, што вось дзяжурыце... і сядайце, калі ласка... будзьце як дома... расслабцеся... можаце нават распрануцца... разуцца... вы ж, чорт вазьмі, так неяк у сваім коле! Ну што, як маё ўступнае слова? Скажыце, нядрэнна? Так, ведаеце, па-простаму, па-народнаму, каб усіх тут так неяк разварушыць. І я ж не знарок гэтак вось па-народнаму — гэта ўва мне так неяк сядзіць. Не магу трываць балбатні і рашуча змагаюся супраць пустых размоў. У мяне гэта так неяк ад прыроды: я звычайны чалавек — плоць і кроў з малаком... як кажуць, такі, як вы ўсе! І, калі ласка, ешце, калі ёсць што есці,— не думаць жа нам пра ўсялякія цырымоніі! Мне ўвогуле нішто чужое не чалавечнае. Але няважна... галоўнае, што мне ўдалося стварыць паміж намі сяброўскую,

неафіцыйную атмасферу... Такі я ўжо: дзе ні прыйду, там адразу поўна смеху. А ваш Ліквідкам, вядома ж, карысная ўстанова — са складаным і развітым адміністрацыйным справаводствам. Але пры ўсім пры тым вы дзе-нідзе, глядзіш, ды ўлазіце ў бюракратызм. Гэта заўважылі інстанцыі, пачаліся размовы наверсе — і вось так неяк у выніку было арганізаванае сённяшняе свята ў садзе. Не бойцеся, пакуль што патрабуецца няшмат: каб вы напачатку так як бы палюдску расслабіліся, каб паміж вамі ўзніклі такія як бы добрыя, цёплыя, чалавечыя стасункі і вы так неяк разам адкрыта абдумалі ды абмеркавалі, як вам абнавіцца. Бо ў вас, сябры, жыццё так неяк не гэткае, як у людзей! Ці ведаеце, што зацяжарыць жанчына можа і на Месяцы? Калі паедзе на месяц у адпачынак. Мы ж, чорт вазьмі, так неяк дзеці адной чэшскай мамы! Ну ды няхай сабе, мне пара, праверу, ці наладзілася гутарка ў садзе. А вы ўжо тут так неяк без мяне!..

Пыльзак выходзіць; працяглая паўза.

Ліквідатар. Ну, як там дома? Як дзеці? Дурэюць, дурэюць?

Ліквідатарка. Ды не... у мяне дзяцей няма... не...

Ліквідатар. Як гэта, як гэта? Дык вы што, не замужам?

Ліквідатарка. Не, не замужам... а вы?

Ліквідатар. Я таксама... я таксама...

Ліквідатарка. А як дзеці, як дзеці?

Ліквідатар. Ды ведаеце... дурэюць... дурэюць...

Маўчанне.

Ліквідатарка. Паслухайце. Вялікая зала «А»... пасля таго, як прайшоў час, здаецца...

Ліквідатар. Што?

Ліквідатарка. Большая за Малую залу «В»...

Ліквідатар. У новых гістарычных умовах — вядома!

Ліквідатарка. Але ад нас гэта хавалі, праўда?

Ліквідатар. Але сёння мы не пабаімся на ўвесь голас сказаць: калі аддаць пад забаўляльны рэквізіт Вялікую залу «А»...

Ліквідатарка. ...дык тым болей службоўцаў будзе мець магчымасць забаўляцца, выкарыстоўваючы забаўляльны рэквізіт!

Ліквідатар. Бо сёння нам няма чаго баяцца забаўляльнага рэквізіту!

Ліквідатарка. А раптам гэта пастка?

Ліквідатар. Каляжанка!

Ліквідатарка. Выбачайце!.. Вялікая зала «А» і напраўду вялікая! Мяне ўражвае смеласць, з якой нам на гэта адкрылі вочы! Ну, а як дома? Як дзеці? Дурэюць, дурэюць?

Гуга. Даруйце, але наколькі Вялікая зала «А» большая за Малую залу «В», настолькі большая колькасць службоўцаў з кардоннымі насамі зможа адначасна забаўляцца. Хто вудзіць рыбу каля Клатаў, таму не трэба бегчы ў ягады! Шах!

Ліквідатар. Ну і што? Сёння не трэба быць надта смелым, каб казаць такое! Няўжо вам незразумела: калі без канца мармытаць даўно сцверджаны факт, што Вялікая зала «А» сапраўды вялікая, мы проста падменім адно выказванне другім. Не-не, сёння вартасць маюць учынкі, а не словы!

Ліквідатарка. Вось гэта, далібог, я і мела на ўвазе!

Заходзіць Пыльзак.

Пыльзак. Ну, што новага ля ўвахода? Як гутарка? Спадзяюся, наладзілася? Свята ў садзе — забава ўсіх!

Ліквідатарка. Дзякуй, наладзілася...

Ліквідатар. Наладзілася...

Пыльзак. Ну і добра! Відаць, мой пачатак надаў вам добрага гумору! Ну, ды дзіва, што — я, д'ябал усіх бяры, у тым, як пачынаць свята, не пачатковец!

Ліквідатарка. І ці часта вы робіце адкрыццё?

Пыльзак. Няма пытання! Бо гэта ж так неяк мая праца. Я прафесійны распарадчык нарад, канферэнцый і іншых святкаванняў, супрацоўнік Распарадчай службы, спецыяльнасць 02!

Ліквідатар. Варта вам толькі было ўзяць слова, як усе адразу ж уцямілі, што вы па яго ў кішэню не палезеце...

Пыльзак. У мяне шматгадовы досвед у адкрыцці ўрачыстасцей, а што да святаў у садзе, дык я ўжо сапраўдны спец па іх. Пры гэтым распарадчыцтва для мяне так неяк хутчэй патрэба, чым абавязак.

Ліквідатарка. А што, усе распарадчыкі такія, як вы?

Пыльзак. На жаль, не ўсе. У Распарадчай службе ёсць два лагеры: старыя балбатуны-дагматыкі і мы, моладзь, у якой ёсць пачуццё гумару. Бачыце, у нас таксама ёсць свае ўнутраныя праблемы! Ды хіба ж і вы можаце абысціся без іх! Не-не, пакуль што яшчэ далёка не кожны распарадчык дасягнуў тых вышыняў, на якіх мы б хацелі яго бачыць!

Ліквідатар. Але ж вы акурат на той вышыні, на якой хацелі б сябе бачыць!

Пыльзак. Я імкнуся дапамагаць калегам, якія не спраўляюцца, паказваючы ім шлях... У рэшце рэшт, галоўнае тое, што Распарадчая служба, нягледзячы на ўсё гэта, так неяк уяўляе сабой адзіны фронт у авангардзе змагання за новы падыход да чалавека!

Ліквідатарка. Нам у вас яшчэ шмат і шмат вучыцца ды вучыцца!

Ліквідатар. Шмат!

Пыльзак. Шмат! Ці чыталі вы маю брашуру «За народнасць святаў у садзе, арганізаваных нашымі ўстановамі»?

Ліквідатарка. Я збіралася якраз...

Ліквідатар. Я таксама...

Пыльзак. Ды вы што, спадарства... тады няма чаго і здзіўляцца... за такімі рэчамі трэба так неяк сачыць — гэта вам не якая-небудзь цягамоціна! У сваёй кнізе я праводжу ідэю, што кожнае свята ў садзе найперш павінна быць падмуркам здаровага, народнага і прытым дысцыплінаванага адпачынку ўсіх службоўцаў. Дарэчы, ваша свята ў садзе мае ўсе перадумовы, каб зрабіцца такім падмуркам.

Ліквідатарка. Дзякуй...

Ліквідатар. Дзякуй...

Пыльзак. Рады быць вам карысным! Мы, распарадчыкі, вас, ліквідатараў, так неяк усёю душою любім, як гэта ў нас, працавітага люду, ёсць звычка!

Ліквідатарка. Мы, ліквідатары, вас, распарадчыкаў, таксама.

Пыльзак. Вось бачыце! На пэўным этапе страшэнна важна, каб людзі так неяк наўпрост сказалі адно аднаму, што яны ўсе так неяк людзі. Але жыццё не стаіць на месцы, так што мы не абыдземся абстрактнымі дэкларацыямі! Я, ведаеце, заўсёды так шчыра і кажу: чалавек — ён створаны, каб жыць! Вось і вы таксама павінны — не збаімося гэтага слова — так неяк жыць. Бо жыццё, сябры мае, гэта да ашалення файная рэч. Хіба ж не?

Ліквідатар. Файная...

Ліквідатарка. Да ашалення...

Пыльзак. І хай сабе хтосьці ліквідатар, але ж і ён мае права пажыць быццам бы паўнюткім — разумееце, паўнюткім — жыццём! І ў таго яно не без таго, каб не было хоць маленькага граху — без граху ж і ён не ён! Спадзяюся, у вас абаіх таксама ёсць свае грашкі — інакш мы як бы з

вамі і не дамовімся, ведайце гэта! Я з ніякімі папяровымі душамі дачыненняў мецъ не буду, вось вам маё слова!

Ліквідатарка. Асабіста я маю сякія-такія грахі...

Ліквідатар. Я таксама. Я — амаральная асоба.

Пыльзак. У якім сэнсе?

Ліквідатар. Маю ў хаце непрыстойную фотку.

Пыльзак. Так? А вы?

Ліквідатарка. Я таксама.

Пыльзак. Няма ў вас, спадарства, размаху! Я, шчыра кажучы, цярпець не магу гэткіх сухароў, што хаваюць галовы ў пясок ад гэткіх праблем, як драбок пачуцця ў іхнім жыцці. Хіба, чорт вазьмі, не патрэбная людзям гэткая рэч, як каханне — калі, натуральна, ведаеш, за які канец узяцца? Да д'ябла, няхай усё, усё будзе недзе неяк схоплена ў нашай справе клопату пра чалавека! Як кажуць у нас дома ў Падрэпску, зловіш зайчаня — будзе тваё! Ну, што скажаце?..

Ліквідатарка. Вельмі слушна!

Ліквідатар. Зловіш зайчаня — будзе тваё!

Пыльзак. Ну ды добра ўжо, мне трэба ісці, спраўдзіць, ці ўсё ладзіцца ў садзе. А вы ўжо тут як-небудзь без мяне...

Пыльзак выходзіць; маўчанне.

Ліквідатар. Вы...

Ліквідатарка. Што?

Ліквідатар. Глядзіце — верабей! Лётае... мох цвіце... лугі шапочуць... прырода...

Ліквідатарка. Прабачце?..

Ліквідатар. Я кажу: вераб'і лятаюць... мох цвіце... лугі лупяць вочы...

Ліквідатарка. Так, прырода!

Ліквідатар. Ага, ага. У вас валасы... прыгожыя... залатыя... як лотра... не, як лотаць... а нос, як чырвоная ружа... або як незабудка... белая...

Ліквідатарка. Глядзіце: верабей!

Ліквідатар. Што?

Ліквідатарка. Лётае...

Ліквідатар. А грудзі ў вас... дзве... як дзве гэтыя... дзве крыніцы... *(Паўза.)* Гэта значыць, прабачце... мячыкі... я хацеў сказаць... прабачце...

Ліквідатарка. Гэта добры...

Ліквідатар. А вочы, як дзве... два... як два гэтыя... два мячыкі... або дзве кветкі лотаці...

**Ліквідатарка.** А як у вас дома? Як дома?

**Ліквідатар.** Але ж ведаеце... прырода... або незабудкі...

**Ліквідатарка.** А як мячыкі? Дурэюць? Дурэюць?

**Ліквідатар.** Ды не... ды не... цвітуць...

**Ліквідатарка.** Ага, вы ж незамужні!

**Ліквідатар.** Гэта значыць, шапочуць... не вераб'і... мох... мох лупіць вочы, як два... дзве, два незабуды... гэта значыць, гэтыя — Божа мой! Мне надта цікава, хто прыдумаў гэтую імпрэзу! Зловіш зайчаня — будзе тваё! Ёлупень!

**Ліквідатарка.** Калега!

**Ліквідатар.** Прабачце! Вялікая зала «А» — напраўду вялікая! Дзіўлюся смеласці, з якой нам на гэта адкрылі вочы! Глядзіце: верабей!

**Гуга.** Прабачце, але калі б гадзіну назад імпрэзу з забаўляльным рэквізітам перанеслі ў Вялікую залу «А», чарга б магла быць ужо на сто метраў карацейшая. Калі мы будзем бясконца абсмоктваць даказаную ісціну, што Вялікая зала «А» — напраўду вялікая, то мы адно што заменім адну фразу на другую. А што нам трэба сёння, дык гэта ўчынкі, а не словы! Ніколі не варта страляць з дубальтоўкі па крапіве! Шах!

**Ліквідатарка.** Рашуча пратэстую! Іншых ісцін не давядзеш! І я не дазволю, каб гэткія нам дарагія ісціны, як тая, што Вялікая зала «А» напраўду вялікая, зламысна прымяншаліся праз згадванне іх нібыта відавочнасці. Не існуе нічога відавочнага, пакуль паміж нас шнырараць апошнія з тых, хто быў бы рады наогул не бачыць нас у ніводнай з залаў!

**Ліквідатар.** Я гэта, далібог, і меў на ўвазе!

Заходзіць **Пыльзак**,
у яго на пераноссі смешны кардонны нос.

**Пыльзак.** Ну, што новага ля ўвахода? Як гутарка? Спадзяюся, ладзіцца? Свята ў садзе — забава ўсіх!

**Ліквідатар.** Дзякуй, ладзіцца...

**Ліквідатарка.** Ладзіцца...

**Пыльзак.** І пра што ідзе гаворка?

**Ліквідатар.** Пра каханне...

**Пыльзак.** Ну, гэта файна! Каханне, што там ні кажыце, таксама частка чалавечае натуры! А сёння ў чалавеку багаты сусвет пачуццяў, тут з ім не параўнаецца ніякі чалавек мінулага! Але тым больш пільна нам сёння трэба

сачыць, каб каханне ў нас не сягала праз пэўныя дапушчальныя межы — інакш каханне абудзіць у людзях сяды-тады і прыступы меланхоліі!

Ліквідатарка. З якімі час ужо радыкальна разабрацца!

Ліквідатар. Зразумела, калі гэта не канструктыўная меланхолія — бо здараецца і такая, таму не варта дзейнічаць механічна, каб разам з дзіцём не выкуліць і начоўку...

Ліквідатарка. Каб толькі пад начоўкай канструктыўнай меланхоліі не хавалася, наадварот, дэструктыўная...

Ліквідатар. У пытанні меланхоліі я аптыміст!

Ліквідатарка. А я супраць таннага гоп-аптымізму!

Пыльзак. Гэта добра, што вы спрачаецеся. Мы сёння павінны спрачацца, не баючыся пры гэтым і супярэчлівых думак... у кожнага, у каго душа баліць за нашу агульную справу, няхай будзе ад адной да трох супярэчлівых думак... як пра гэта выдатна сказана ў рэзалюцыі трыццаць другой канферэнцыі распарадчыкаў. Вось вы, ці ведаеце, ці ведаеце, што жанчына можа зацяжараць і на Месяцы?

Ліквідатарка. Калі паедзе на месяц у адпачынак...

Пыльзак. Вам усё смешачкі... Чаму б, напрыклад, пра мастацтва не пагаварыць? Вось дзе матэрыялу для дыскусій хоць гаць гаці! Хіба перад нашым мастацтвам не стаіць сёння высокі мур па-д'ябальску складаных праблем?

Ліквідатарка. Я акурат хацела пачаць гаворку пра мастацтва...

Пыльзак. Мастацтва — вось баявое слова! Асабіста я яго так неяк люблю і лічу, што гэта — цымус жыцця. Ну, а наш час наўпрост патрабуе вялікіх драм з паўнакроўнымі героямі... бескампрамісна смелых краявідаў... сучасны глядач пастаянна прагне ўсё больш сучасных п'ес — усё больш і больш сучасных! Мастацтва павінна зрабіцца арганічнай часткай жыцця кожнага з нас...

Ліквідатарка. Слушна! На самым бліжэйшым пасяджэнні падкамісіі па размежаванні я прачытаю колькі шэдэўраў ліра-эпічнай паэзіі!

Гуга *(сам сабе)*. Ліра-эпічная паэзія...

Пыльзак. Добра, вядома, што вас гэтак бяруць за жывое пытанні мастацтва, але не варта яго так неяк аднабакова пераацэньваць, каб не зрабіцца ахвярай нездаровага

і чужога духу нашых народных святаў эстэцтва. Хіба, напрыклад, перад нашай тэхнікай не стаіць высокі мур па-д'ябальску складаных праблем?

Ліквідатар. Я акурат хацеў пачаць гаворку пра тэхніку...

Пыльзак. Тэхніка — вось баявое слова! Я цвёрда перакананы, што мы жывём у век тэхнікі — магнітаў... тэлефонаў... магнітаў... Пра гэта не мог марыць сам Жуль Вэрнер!

Ліквідатар. Я чытаў нядаўна ў «Дваццаці тысячах лье пад вадой»...

Пыльзак. А мы неўзабаве здолеем чытаць яшчэ на большых глыбінях!

Ліквідатар. Пра адкрыцці капітана Нема...

Пыльзак. Нема! Жуль Вэрнер толькі б нема хапаў паветра перад адкрыццямі нашых капітанаў навукі! Тэхніка павінна зрабіцца часткаю жыцця кожнага з нас...

Ліквідатар. Слушна! На самым бліжэйшым пасяджэнні ліквідацыйна-метадычнай секцыі я прапаную прадумаць магчымасці хімізацыі ліквідатарскай практыкі!

Гуга *(сам сабе)*. Хімізацыя... ліквідатарскай... практыкі...

Пыльзак. Добра, вядома, што вас гэтак бяруць за жывое пытанні тэхнікі, але не варта яе так нейк аднабакова пераацэньваць, каб не зрабіцца ахвярай згубнага тэхніцызму, што ператварае чалавека ў просты механічны прыдатак безаблічнага свету бяздушнай цывілізацыі. Хіба, напрыклад, перад нашым мастацтвам не стаіць сёння высокі мур па-д'ябальску складаных праблем?

Ліквідатарка. Я акурат хацела пачаць гаворку пра мастацтва...

Пыльзак. Мастацтва — вось баявое слова! Калегі з культуры ведаюць, што робяць, рыхтуючы цыркуляр-абежнік пра наватарства ў мастацтве. Ён пачне дзейнічаць ужо з другога квартала.

Ліквідатарка. Слушна! Мастацтва павінна абуджаць жывую думку наватарскімі эксперыментамі ў галіне формы... імпрэсіянізм і ўсё такое...

Гуга *(сам сабе)*. Імпрэсіянізм...

Пыльзак. Гэта добра, што вас гэтак бяруць за жывое пытанні мастацтва. Але не варта недаацэньваць таксама і тэхніку!

Ліквідатар. Я акурат хацеў пачаць гаворку пра тэхніку...

Пыльзак. Тэхніка — вось баявое слова! Калегі з прамысловасці ведаюць, што робяць, плануючы запусціць станкі з наступнага квартала.

Ліквідатар. Слушна! Тэхніка проста абавязана браць на ўзбраенне найноўшыя адкрыцці... перыядычная сістэма элементаў...

Гуга *(сам сабе)*. Перыядычная... сістэма... элементаў...

Пыльзак. Гэта добра, што вас гэтак бяруць за жывое пытанні тэхнікі. Але не варта таксама недаацэньваць мастацтва!

Ліквідатарка. Мастацтва — вось баявое слова!

Пыльзак. Гэта добра, што вас гэтак бяруць за жывое пытанні мастацтва...

Ліквідатар. Але не варта таксама недаацэньваць тэхніку!

Ліквідатарка. Тэхніка — вось баявое слова!

Ліквідатар. Гэта добра, што вас гэтак бяруць за жывое пытанні тэхнікі...

Ліквідатарка. Але не варта таксама недаацэньваць мастацтва!

Ліквідатар. Мастацтва — вось баявое слова!

Ліквідатарка. Гэта добра, што вас гэтак бяруць за жывое пытанні мастацтва...

Пыльзак. Досыць ужо! Гэтак мы з вамі так неяк не паразумеемся. Калі вы, нібыта праводзячы шчырую дыскусію, маеце намер старпедаваць сяброўскую атмасферу, якую мне ўдалося стварыць паміж вамі — тым больш калі вы надумалі падкласці міну пад поспех нашага свята ў садзе, дык вам няма чаго рабіць у нашым згуртаваным калектыве! Я тут усялякае абы-што хаваць не збіраюся: я — распарадчык, а не адвакат! А хто паспрабуе выпендрыцца, дык я тых во гэтымі рукамі як вазьму, што яны паляцяць адсюль — аж закруцяцца ваўчком! Прэч з маіх вачэй, пакуль па-людску не зблізіцеся паміж сабою! Латрыгі!

Ліквідатар і Ліквідатарка, спалохана адступаючы, выходзяць.

Гуга *(мармыча ціха)*. Ліра-эпічная паэзія... хімізацыя ліквідатарскай практыкі... імпрэсіянізм... перыядычная сістэма... ліра-эпічная паэзія... хімізацыя...

Пыльзак. Гэй, паслухай — а што ты пра ўсё гэта скажаш?

Гуга. Я? Ды напачатку спрачаліся нібыта цікава, а пасля крыху гэтак збіліся, праўда? *(Паўза.)* Ну, вядома ж, ужо ад самага пачатку размова набыла, можна сказаць, непажаданы накірунак — пры тым, што яна ішла да канца вакол цікавай і актуальнай праблемы — праўда? *(Паўза.)* Разумею, на гэта можна глядзець з розных пунктаў, пазіцый і бакоў, але заўсёды трэба ўзважваць усе «за» і «супраць», праўда? *(Паўза.)* Па сутнасці, абое недзе мелі рацыю, а недзе памыляліся — гэта значыць наадварот, абое памыляліся, і абое мелі рацыю, так? Нібыта так — альбо не? *(Паўза.)* Так, я таксама думаю, што не, хоць і не думаю, што так. Проста абое неяк крыху забыліся, што ў будучым мастацтва і тэхніка павінны адна адну недзе гарманічна дапаўняць... ліра-эпічная паэзія паспрыяе хімізацыі ліквідатарскай практыкі... перыядычная сістэма элементаў дапаможа развіццю імпрэсіянізму... кожны тэхнічны выраб будзе мець сваю асаблівую адметнасць дзеля стварэння эстэтычнага ўражання... коміны атамных электрастанцый будуць размаляваны нашымі найлепшымі мастакамі-майстрамі краявіду... на глыбіні дваццаць тысяч лье пад вадою адчыняцца агульна даступныя чытальні... дыферэнцыяльныя ўраўненні будуць запісвацца вершамі... на дахах цыклатронаў паўстануць тэатры малых формаў... а ў іх будуць дэкламавацца дыферэнцыяльныя ўраўненні... так неяк па-людску, праўда?

Пыльзак глядзіць ва ўпор на Гугу, спалоханы Гуга выцягвае з кішэні і паказвае Пыльзаку пасведчанне асобы. Але Пыльзак разумее гэта інačай і хуценька паказвае Гугу сваё пасведчанне. Неўзабаве абодва супакойваюцца.

Пыльзак. Гаворыш добра. Так неяк па-людску. І пры гэтым ты на вышыні. Ты мне даспадобы! Прыроджаны распарадчык! Ну, давай ужо расказвай, калі ты адышоў ад гэтае справы?

Гуга. Маё распарадчыцтва заўсёды было блізкае...

Пыльзак. А чаму ж ты звязаўся з ліквідатарамі? Грэх маладосці?

Гуга. Ды так, бывае, задзьме на чалавека вецер...

Пыльзак. Або па службе?

Гуга. Кожны мае сваю службу...

Пыльзак. Ага, разведка на мясцовасці — разумею! Шкада, што я сёння не ў форме.

Гуга. Такой бяды...

Пыльзак. А ты малайчына! Ведаеш, я не тое каб хацеў быць з табою запанібрата... гэтага я звычайна не

раблю... але мушу табе сказаць, што ты мне добра запаў у душу, далібог!

Гуга. Вы мне таксама туды запалі.

Пыльзак. І давай будзем на «ты»! Я — Фэрда Пыльзак, дык чаго ўжо тут!

Гуга. Ты мне таксама туды запаў, Пыльзачак!

Пыльзак. Паслухай, сябра мой, а ці не пашпрэхаць нам з табой як людзям?

Гуга. Як нармалёвым людзям, Фэрда?

Пыльзак. Ну! Ты як — за?

Гуга. А то ж бо не! Я тут сам сабе ўвесь вечар кажу: во было б файна мне з ім нос да носа паплявузгаць! *(Гуга надзявае Пыльзякаў кардонны нос.)* Ну, як ваш стары? Шалее?

Пыльзак. Шэрыф? Бзікі ў яго бываюць, але затое хоць упіраецца; ён і цяпер на сваім месцы.

Гуга. Иначы?

Пыльзак. А што ты, уласна, ліквідуеш?

Гуга. Значыць, я магу зараз зазірнуць да яго?

Пыльзак. Ты — да яго?

Гуга. Ці няможна?

Пыльзак. Чаму ж няможна? А навошта, навошта?

Гуга. Ды так... пасядзець, пабалбатаць...

Пыльзак. Зразумела, не буду дапытвацца...

Гуга. Дапытвайся, няма чаго саромецца!

Пыльзак. Можна?

Гуга. Анягож!

Пыльзак. Дык навошта, навошта?

Гуга. Ды так... пасядзець, пабалбатаць...

Пыльзак. Зразумела, не буду дапытвацца...

Гуга. Дапытвайся, няма чаго саромецца!

Пыльзак. Можна?

Гуга. Анягож!

Пыльзак. Дык навошта, навошта?

Гуга. Ды так... пасядзець, пабалбатаць...

Пыльзак. Што ж, былі хібы ў працы Распарадчай службы — усе мы гэта ведаем! Галоўнае, што яна так неяк будзе ў руках прафесіянала...

Гуга. Як ты думаеш, ён не будзе мне ставіць палкі ў колы?

Пыльзак. Гістарычная неабходнасць — гэта гістарычная неабходнасць, ён зразумее. І не такія, бывала, разумелі.

Гуга. Я ж таксама, па сутнасці, звычайны чалавек з плоці і крыві з малаком — і нішто чужое мне таксама не чалавечнае!

Пыльзак. Ты хоць будзеш чулы... неабыякавы да людзей... а гэта файна.

Гуга. Прычым я не люблю пустых слоў і рашуча змагаюся з усялякай балбатнёю!

Пыльзак. Я гэта праўдзіва табе кажу — ты ж мяне, сябра мой, ведаеш!

Гуга. Я ўжо маўчу наконт сухароў, якія хаваюць галовы ў пясок ад вострых праблем...

Пыльзак. Я праўды не баяўся ніколі! Калі гаворка пра справу, асабістыя інтарэсы — ні да чога!

Гуга. Вядома, ён пойдзе мне насустрач — мы ж усе, чорт вазьмі, так неяк дзеці адной чэшскай мамы!

Пыльзак. Абсалютна згодзен! Не трэба толькі звальваць усіх, як кажуць, у адну кучу! У справе ліквідацыі таксама так неяк патрэбны індывідуальны падыход! Возьмем, напрыклад, мяне...

Гуга. Ну, ды няхай... галоўнае, што мне ўдалося стварыць тут сяброўскую неафіцыйную атмасферу, але зараз я і напраўду мушу ісці! Мы ж не апошні раз бачымся — хто ведае, можа, заўтра я буду сваім чалавекам паміж вас!

Пыльзак. Ты ўжо з намі пагамоніш па-свойску...

Гуга. Ну, а пакуль што ты як-небудзь тут сам, без мяне...

Пыльзак. Разумею цябе! Час наш бурлівы... усё ў няспынным руху...

Гуга. Перадыхні...

Пыльзак. Усё імкліва мяняецца...

Гуга. Супакойся...

Пыльзак. Усё, што новае сёння, заўтра зробіцца старым...

Гуга. Расслабся...

Пыльзак. Мы шукаем новых шляхоў...

Гуга. Адчувай сябе як дома...

Пыльзак. Разнасцежваем вокны...

Гуга. Можаш нават распрануцца...

Пыльзак. Пачаўся крыгаход... адліга...

Гуга. Разуцца...

Пыльзак. Распарадчая служба ўчора была наперадзе, а заўтра будзе ззаду...

Гуга. Ды і паспаць можаш: распарадчыкі, чорт вазьмі,

таксама так неяк людзі! Як кажуць у нас у Падрэпску, зловіш зайчаня — будзе тваё! Шах!

Гуга спешна выходзіць.
Пыльзак, прыгнечаны, сядае.
Павольна заходзяць Ліквідатар і Ліквідатарка.
Маўчанне,
потым Ліквідатар пачынае няўпэўнена
мармытаць свой «даклад».
Пыльзак сядзіць нерухома,
утаропіўшыся ў адну кропку перад сабою,
і не звяртае на іх ніякай увагі.

Ліквідатар. Мы ўжо зблізіліся паміж сабою... апавядалі кожны падрабязна пра розныя факты са свайго асабістага жыцця... кідаліся шышкамі... казыталіся... пхаліся... ціскаліся... я цягаў каляжанку за валасы... каляжанка ў адказ кусанула мяне... але не са злосці! Апроч таго, мы дэманстравалі адно аднаму розныя анатамічныя асаблівасці... і навобмацак... гэта было страшэнна цікава... пры гэтым мы спакойна дакраналіся адно да аднаго... напрыканцы мы нават пару разоў назвалі адно аднаго на «ты»!

Пыльзак. Кіньце! Ну, чаго вылупілі вочы?! Ці вы думаеце, што мне да вас ёсць справа? Ды не, не і не! Вы для мяне нішто! Як бы вас і не было! Я вас ва ўпор не бачу! Ну? Чаго стаіцё? Распарадчая служба ліквідуецца, дык ваша месца там! Бо яшчэ недагледзіце за чым-кольвечы...

Раз'юшаны Пыльзак выходзіць.
Ліквідатар яшчэ нейкую хвілю няўцямна вылупвае вочы,
потым пачынае цяміць,
што было сказана,
і радасна пачынае хадзіць сюды-туды па сцэне.

Ліквідатар. Ма-лай-цы! Ма-лай-цы! *(Запнуўшыся.)* Распарадчая служба ліквідуецца па схеме «А» альбо па схеме «Б»? *(Зноў пачынае хадзіць сюды-туды.)* Не, ну якія малайцы!

Ліквідатарка *(сумна)*. Ты больш нічога не хочаш мне сказаць, Пэпік?

Ліквідатар. Будзь радая, што ўсё стала на месца! І хадзем ліквідаваць, інакш спознімся!

Ліквідатарка пачынае ўсхліпваць і таропка выходзіць,
за ёй, радасна ўсміхаючыся, ідзе Ліквідатар.
Але не паспелі яны адысці,
як на сцэну выбягае раз'юшаны Пыльзак
і крычыць ім у твар.

**П ы л ь з а к.** Калі хочаце ведаць, дык пакуль вы пачняце ліквідоўваць, я ўжо буду ў ложку! У ложку! У ложку! *(Раз'юшана высоўвае ім язык.)*

# ДЗЕЯ ТРЭЦЯЯ

**Канцылярыя Распарадчай службы.**
**Пры стале, заваленым паперамі, сядзяць Д ы р э к т а р**
**і Л і к в і д а т а р к а, якая займаецца ліквідацыяй:**
**бярэ ў Дырэктара дакументы і папкі, рэгіструе іх,**
**надпісвае, ставіць на іх штэмпель і складае ў вялізны кош,**
**які стаіць паблізу.**
**Размова ніяк не парушае працэдуры ліквідацыі.**

**Д ы р э к т а р.** Паслухайце, каляжанка...

**Л і к в і д а т а р к а.** Слухаю вас.

**Д ы р э к т а р.** Ці можна ў вас спытацца пра адну рэч?

**Л і к в і д а т а р к а.** Вядома!

**Д ы р э к т а р.** Колькі часу будзе доўжыцца гэта ліквідацыя?

**Л і к в і д а т а р к а.** А што?

**Д ы р э к т а р.** Ці вам не хочацца ў ложак?

**Л і к в і д а т а р к а.** У якім сэнсе?

**Д ы р э к т а р.** У добры...

**Л і к в і д а т а р к а.** Зашмат часу гэта не зойме, бо арганізацыйная структура Распарадчай службы дазваляе нам дзейнічаць паводле новай схемы «В», якая ўяўляе сабою камбінацыю схем «А» і «Б». Я іду знізу, паводле схемы «А» — гэта значыць раблю папярэднюю рэгістрацыйна-фармальную ліквідацыю. А калега ідзе зверху, паводле схемы «Б» — гэта значыць ажыццяўляе канчатковую нарматыўна-дэлімітацыйную ліквідацыю. Так ці іначай, мы рухаемся насустрач адно аднаму.

**Д ы р э к т а р.** Зразумела! Значыць, недзе на паўдарозе вы сустрэнецеся...

**Л і к в і д а т а р к а.** Ды не. Згодна з графікам ліквідацыі, мы павінны сустрэцца на чацвёртым паверсе. Але не выключана, што калега мяне апярэдзіць — ён стары зубр.

**Д ы р э к т а р.** Нейкі ёлупень, праўда?

Ліквідатарка. Я папрасіла б яго так не называць. Ва ўсялякім разе, у маёй прысутнасці...

Дырэктар. Даруйце, я не ведаў...

Непрацяглая паўза, потым Ліквідатарка зрываецца.

Ліквідатарка. Божухна, што тут такога! Хіба я, па-вашаму, не жанчына?

Дырэктар. Дык я ж нічога не казаў!

Ліквідатарка. Ну, прабачце...

Дырэктар. Так што ваш калега можа паявіцца ў любы момант...

Ліквідатарка. І праўда. Нам трэба спяшацца.

Ліквідатарка тым часам ужо апрацавала і паскладвала ў кош усе дакументы і цяпер, зняўшы з Дырэктара сацінавы халат, запісвае яго інвентарны нумар, ставіць пячатку і кідае халат у той самы кош. На працягу далейшай размовы яна — як быццам паміж іншым — ліквідуе таксама Дырэктаравы пінжак, гальштук, кашулю, штаны — гэткім чынам, у канцы гэтай дзеі на Дырэктару застаюцца толькі майка ды трусы.

Ці маеце вы спіс ліквідацыйных формаў?

Дырэктар. Маем.

Ліквідатарка. А спіс дэлімітацыйных нормаў?

Дырэктар. Гэтага ў нас няма.

Ліквідатарка. Ці гэта пяты нумар? *(Бярэцца за халат.)*

Дырэктар. Пяты.

Ліквідатарка. Але ж спіс ліквідацыйных формаў без спісу дэлімітацыйных нормаў несапраўдны!

Дырэктар. А можа, будзе дастаткова спісу ліквідацыйных нормаў, прыведзенага ў адпаведнасць са спісам дэлімітацыйных формаў?

Ліквідатарка. Гэта пазбавіла б сэнсу ўсю ліквідацыю.

Дырэктар. А ці не здаецца вам, што гэта — фармальная норма?

Ліквідатарка. Наадварот: гэта — нармальная форма. Колькі? *(Бярэцца за пінжак.)*

Дырэктар. Шэсцьдзесят пасярэдзіне, трыццаць у плячах.

Ліквідатарка. Падшэўка парваная.

Дырэктар. Спрачацца не буду, але дзе?..

Ліквідатарка. Пад левым рукавом.

Дырэктар. Спрачацца не буду, але дзе?..

Ліквідатарка. Гэта вынікае са зборніка інструкцый па ліквідацыі.

Дырэктар. Спрачацца не буду, але дзе ён быў разгледжаны?

Ліквідатарка. На ліквідатарскім актыве гэтага года.

Дырэктар. А ўзгоднены?

Ліквідатарка. На леташняй канферэнцыі ліквідатараў.

Дырэктар. А канчаткова апрабаваны?

Ліквідатарка. На пазалеташняй нарадзе па ліквідацыі, якую вы ж самі і адкрывалі, прычым вельмі прыгожа: вы тады чыталі вершы Шрамэка... Памятаеце? Я чула тысячу...

Дырэктар. Скрыпкі ды флейты гралі песні напрадвесні...

Ліквідатарка. Або вось гэта. Вандроўнік з посахам у правай руцэ...

Дырэктар. У левай — дзяўчына-краска...

Ліквідатарка. Або яшчэ: пачуй мяне, кветка, кветка канюшыны.

Дырэктар. Паклікаць каханка голас займае ў дзяўчыны...

Ліквідатарка. Ах, Божа мой! *(Плача.)*

Дырэктар. Ну што вы, каляжанка... на адну кветку сонца не свеціць... вы ж жанчына... будзьце мужная!

Ліквідатарка *(набіраецца мужнасці, бярэ хутка сябе ў рукі)*. Значыць, інструкцыя наконт дэлімітацыйных нормаў вам невядомая?

Дырэктар. Скрыпкі ды флейты гралі песні — а гэтую інструкцыю я і прахлопаў! *(Даверліва.)* Галава была занятая...

Ліквідатарка. Бачыце як! Каб гэта быў іншы тып ліквідацыі, я магла б паглядзець скрозь пальцы...

Дырэктар. А што гэта ў нас за тып ліквідацыі?

Ліквідатарка. Ліквідацыя праз дэлімітацыю.

Дырэктар. Дык нас, значыцца, прымацуюць да іншага прадпрыемства?

Ліквідатарка. Відаць, да бляхароў.

Дырэктар. І як жа гэта будзе арганізавана?

Ліквідатарка. Трэба меркаваць, што створацца так званыя камбляхі... гэта значыць такія комплексныя бляхарні: на аднаго бляхара восем распарадчыкаў.

Дырэктар. А гэтыя... камбляхі... ці яны будуць гнуць бляху або распараджацца?

Ліквідатарка. Вядома ж, гнуць бляху! Каўнер?

Дырэктар. Сорак...

Ліквідатарка. Ну вось, на гэтым, можна сказаць, са схемай «А» скончана! *(Збірае паперы і накрывае кош.)* І падымуся вышэй на адзін паверх, а кош забяру па дарозе назад. Вось-вось павінен падысці калега, які займаецца схемай «Б». Божа мой! Не, я не жанчына, я — пень!

Са слязьмі ўваччу Ліквідатарка выходзіць, Дырэктар ідзе да каша, адкрывае яго і тужліва глядзіць усярэдзіну. Потым уздыхае.

Дырэктар. Нялёгкая часіна... *(Крыху ачомаўшыся, зноў сядае за свой стол, задумваецца — так, што вочы ў яго пачынаюць зліпацца. Нейкую хвілю ён спрабуе змагацца з дрымотай, пасля стрэсвае яе з сябе.)* Ярда! Трывай!

Дырэктар усё ж засынае. З'яўляецца Гуга: у яго на пераноссі той самы кардонны нос.

Гуга. Прывітанне, шэрыф!

Дырэктар *(імгненна падхопліваецца)*. Што? А-а! Ага-ага... Гэта я... так неяк...

Гуга. Вы спалохаліся...

Дырэктар. Наадварот! Дзякуй!

Гуга. Ды вы сядайце! Мы ж усе людзі, праўда? Ну, як вашы ныркі?

Дырэктар. Дзякуй. У мяне пячонка...

Гуга. Тут розніцы няма, мы ж так неяк свае людзі, праўда?

Дырэктар. Ага... вядома...

Маўчанне.

Гуга. Ну што, сябра мой, як дуж-здароў? Чым займаешся?

Дырэктар. Ды так, кажучы шчыра, жывём... распараджаемся... сябра мой...

Гуга. Гэта добра, што жывём! Жыцьмем!

Маўчанне.

Дырэктар. Як гаворыцца, з чаго пачнём?

Гуга. Гэта, як гаворыцца, залежыць ад нас... Ці не?

Дырэктар. Пэўна ж... пэўна ж...

Маўчанне.

Гуга. Значыцца, за шэрыфа мы тут, га?

Дырэктар. Га...

Гуга. Дакладна га?

Дырэктар. Калі мы не пярэчым — дык дакладна га!

Гуга. Гэта вялікая справа, што мы ім служым! За гэта мы нас шануем! Мы лічым, што ў нас так неяк страшэнна ганаровая і адказная пасада! Ці курым?

Дырэктар. Не, дзякуем! А мы нас чакалі! Ужо ж і цешыліся! Сядайма... Ці курым?

Гуга. Не, дзякуем... мы так неяк разумеем лёсавызначальную ролю Распарадчай службы ў маштабах нашага грамадства — і таксама лёсавызначальную ролю шэрыфа ў маштабах Распарадчай службы. Ці курым?

Дырэктар. Не, дзякуем. Не ведаем, не ведаем... не тое каб мы не хацелі гнуць бляху, мы гнуць бляху любім, але... як бы сказаць... Ці курым?

Гуга. Не, дзякуем. Мы мяркуем, што, бадай што, неўзабаве мы знойдзем тут так неяк наш другі дом. Вы гэтак не думаем?

Дырэктар. Мы ўхваляем! Ці курым?

Гуга. Мы не курым — ці разумеем?

Дырэктар. Слухаемся!

Маўчанне.

Гуга. Калі мы дазволім, пачнём так неяк ад Евы. Мы яшчэ дзіцём бывалі распарадчыкам усіх нашых дзіцячых забаў...

Дырэктар. Цудоўна...

Гуга. А калі мы сталі дарослымі...

Дырэктар. Як пакаленне?

Гуга. Не, як асоба. Я ніколі нікому не ствараў ніякіх штучных бар'ераў у гэтым спрадвечным змаганні пакаленняў!

Дырэктар. Я таксама!

Гуга. Бо ўсе людзі, уласна кажучы, адно пакаленне, праўда?

Дырэктар. Вядома.

Гуга. Увогуле, калі я вырас, я стаў распарадчыкам усіх школьных баляў і ансамбляў.

Дырэктар. Выдатна!

Гуга. І да сёння я заўсёды скарыстаюся з выпадку, каб распарадзіцца!

Дырэктар. Я шчаслівы, што да нас накіравалі такога чалавека, як вы!

Гуга. Вы вельмі добры...

Дырэктар. Вы ўжо, несумненна, здолееце дакладна зразумець нашы спецыфічныя асаблівасці!

Гуга. Я зраблю ўсе намаганні...

Дырэктар. І работа ў нас пад рукамі будзе проста гарэць!

Гуга. Вядома!

Дырэктар. Праўда?

Гуга. Праўда. Я ж маю цэлы шэраг спецыфічных здольнасцей і якасцей распарадчыка і, як мне здаецца, недзе правільна разумею сэнс і задачы распарадчыцтва.

Дырэктар. На маю думку, распарадчыцтва — гэта спецыфічная форма выхаваўчай працы. Ці не?

Гуга. Безумоўна! Але адначасна гэта і яе спецыфічны метад.

Дырэктар. Дык форма ці метад?

Гуга. І тое, і тое. Якраз у гэтым своеасаблівым адзінстве і ёсць спецыфіка.

Дырэктар. Важка!

Гуга. Ну?

Дырэктар. А ў чым спецыфіка зместу распарадчыцкай справы?

Гуга. У яго спецыфічнай форме.

Дырэктар. Важка!

Гуга. Ну?

Дырэктар. А спецыфіка формы распарадчыцкай справы?

Гуга. У яго спецыфічным змесце.

Дырэктар. Тройчы важка!

Гуга. Ну? Ну? Ну?

Дырэктар. Але!

Гуга. Але! І гэтае спецыфічнае ўзаемапранікненне можна назваць краевугольнай трыядай распарадчыцкай справы.

Дырэктар. Але?

Гуга. Ага. Прычым спецыфічнай прыкметай гэтай трыяды з'яўляецца менавіта яе трыяднасць.

Дырэктар. Але?

Гуга. Але.

Дырэктар. Вы зрабілі сапраўды важкі даробак да распрацоўкі тэорыі надзённай праблематыкі распарадчыцкай справы!

Гуга. Скажыце? Я рады, што мы знайшлі агульную мову!

Дырэктар. І я вельмі рады!

Гуга. Я заўсёды рады, калі сустракаю роднасную душу — гэтак сказаць, светапоглядна і светаадчувальна. Можаце гаварыць мне «ты»! Ці ты курыш?

Дырэктар. Дзякуй, не куру! А ты?

Гуга. Дзякуй, я таксама не куру. А ты?

Дырэктар. Дзякуй, не куру. А ты?

Гуга. Няма за што. Ведаеш, ты можаш так неяк лічыць мяне за бацьку!

Дырэктар. А ты мяне — за маці!

Гуга. Мама...

З-за куліс выглядвае Плудкава.

Плудкава. Што табе?

Гуга. Я не з табою!

Плудкава знікае.

Разумееш, я, уласна, зайшоў, каб...

Дырэктар. Разумею. Не бойся, я пайду табе насустрач! Я ўсёю душою «за»: наспела пара! Пабачыш: ты будзеш мною задаволены!

Гуга. Разумееш, мне так неяк здаецца, што маё месца так неяк тут. А ці табе не здаецца... так неяк?

Дырэктар. А як жа іначай!

Гуга. Ну ўжо ўдваіх мы справу добра наладзілі.

Дырэктар. Што і казаць, нам добра пашанцавала. Ці ты курыш?

Гуга. Не куру. А ты?

Дырэктар. Не куру.

Гуга. Паслухай, скажы шчыра, ты выпадкова не з гэтых... што не кураць?

Дырэктар. Ды дзе там?

Гуга. Ага, разумею.

Дырэктар. Ну што, пачнём?

Гуга. Усё ў тваёй уладзе! Ты ў сябе дома, а я тут навязваюся да цябе...

Дырэктар. Наадварот, гэта я цябе звязваю! Так што так неяк распараджайся...

Гуга. Ты хочаш паглядзець, які я спраўны? А чым я маю распараджацца?

Дырэктар. Як гэта — чым? Ліквідацыяй!

Гуга. Ліквідацыяй? А чаго?

Дырэктар. Распарадчай службы!

Гуга. Д'ябал, гэта хітры ход! Тут у вас, відаць, на кожным кроку пастка... Ды мяне не зловіш!

**Дырэктар.** Не?

**Гуга.** Не.

**Дырэктар.** Ну, а хто ж тады тут распараджаецца?

**Гуга.** Упаўнаважаны распарадчык, вядома.

**Дырэктар.** Упаўнаважаны распарадчык? Але ж распарадчыкі не могуць распараджацца, калі на іх распаўсюджваецца ліквідацыя.

**Гуга.** Напэўна. З гэтай прычыны распараджацца павінен упаўнаважаны ліквідатар.

**Дырэктар.** Упаўнаважаны ліквідатар? Але ж ліквідатары існуюць для таго, каб ліквідоўваць, а не распараджацца!

**Гуга.** Напэўна ж! Таму трэба стварыць спецыяльныя распарадчыцкія курсы для ліквідатараў.

**Дырэктар.** Мяркуеш?

**Гуга.** Альбо, хутчэй, ліквідатарскія курсы для распарадчыкаў?

**Дырэктар.** Табе лепей ведаць!

**Гуга.** Лепш за ўсё было б арганізаваць паралельныя курсы: няхай распарадчыкі перапрафілёўваюць ліквідатараў, а ліквідатары — распарадчыкаў.

**Дырэктар.** А ўсім гэтым распараджацца стаў бы перапрафіляваны ў распарадчыка ліквідатар або перапрафіляваны ў ліквідатара распарадчык?

**Гуга.** Трэба стварыць яшчэ адны курсы, каб перапрафіляваныя ў распарадчыкаў ліквідатары і перапрафіляваныя ў ліквідатараў распарадчыкі даперапрафілёўвалі кожны кожнага.

**Дырэктар.** А распараджацца там стаў бы распарадчык, перапрафіляваны ў ліквідатара перапрафіляваным у распарадчыка ліквідатарам, або ліквідатар, перапрафіляваны ў распарадчыка перапрафіляваным у ліквідатара распарадчыкам?

**Гуга.** Натуральна, што гэты апошні!

**Дырэктар.** Бачу, што ў цябе ўсё прадумана. Тэарэтычна. Але практыка вымагае, каб мы дзейнічалі аператыўна. І я жадаю табе як найхутчэй дабрацца да ложка. Зрэшты, ліквідоўваць Распарадчую службу зусім няцяжка! Паперы ў мяне ў парадку, са схемаю «А» мы ўжо скончылі...

**Гуга.** Хіба Распарадчая служба ліквідуецца?

**Дырэктар.** На жаль.

**Гуга** *(кладучы на стол кардонны нос)*. На жаль? Як гэта — на жаль? Я мяркую — на шчасце?

Дырэктар. Ну, вядома ж, на шчасце! Я і сказаў — на шчасце!

Гуга. Ты і сапраўды сказаў «на шчасце»?

Дырэктар. Вядома! Не мог жа я сказаць «на жаль»!

Гуга. Ну я ж веру, што ты сказаў «на шчасце». Мы так неяк павінны верыць у чалавека. На жаль.

Дырэктар. Я дык думаю — на шчасце?

Гуга. Вядома ж, на шчасце! Ці ты хочаш сказаць, на жаль?

Дырэктар. Прабач! Усе мы ведаем, што Распарадчая служба — гэта перажытак мінуўшчыны! Хоць і нельга адмаўляць, што ў перыяд барацьбы з пэўнымі праявамі бюракратызму ў дзейнасці Ліквідацыйнага камітэта Распарадчая служба намаганнямі некаторых распарадчыкаў, якія дзякуючы ўжыванню разумна нестандартных і па-наватарску дынамічных падыходаў да чалавека паспяхова праклалі па цаліку дарогу шматлікім каштоўным ідэям, адыграла, безумоўна...

Гуга. ...станоўчую ролю, але тым не менш мы праявілі б...

Дырэктар. ...ліберальны экстрэмізм, каб узяліся разглядаць гэтыя станоўчыя, аднак пазначаныя прыкметамі эпохі рысы па-за кантэкстам далейшай эвалюцыі Распарадчай службы...

Гуга. ...і не разгледзелі за іх суб'ектыўна станоўчай тэндэнцыяй...

Дырэктар. ...відавочны аб'ектыўна негатыўны эфект...

Гуга і Дырэктар *(разам)*. ...выкліканы тым, што ў выніку нездаровай самаізаляцыі ўстановы была дапушчана некрытычная пераацэнка пэўных станоўчых момантаў у дзейнасці Распарадчай службы і разам з тым аднабаковая абсалютызацыя паасобных адмоўных момантаў дзейнасці Ліквідацыйнага камітэта, і ўсё гэта мела сваім вынікам тое, што ў той час... *(Дырэктар ужо не паспявае за Гугам.)*

Гуга. ...калі Ліквідацыйны камітэт на хвалі новай актывізацыі яго пазітыўных сіл зноў узначаліў нашу барацьбу як непераможны надзейны бастыён нашага адзінства, Распарадчая служба, на жаль, загразла...

Дырэктар. ...у істэрычнай атмасферы няўзважанасці...

Гуга. ...якая бярэ на ўзбраенне знешне прывабныя аргументы з ліберальнай збраёўні абстрактна-гуманістычных лозунгаў, але, па сутнасці, не выходзіць за межы

нятворчых метадаў працы, якія адлюстроўвае ў тыповай форме, напрыклад...

Дырэктар. ...стара-новы рэпертуар...

Гуга. ...псеўдафамільярнай фразеалогіі, што хавае за паўсядзённасцю прафесійнага гуманізму глыбокі светапоглядны разброд, у выніку чаго Распарадчая служба заканамерна перарадзілася ва ўстанову, якая падрывае скіраваныя на кансалідацыю станоўчыя намаганні Ліквідацыйнага камітэта, гістарычна непазбежнай вяршыняй якіх стаў мудры акт яе ліквідацыі!

Дырэктар. Я цалкам згодны!

Гуга. Вы ведаеце адно: згаджацца — а вынікаў ніякіх няма! Не, гэтак нам ліквідацыі не здзейсніць! Час бяжыць... прынясіце мне каву!

Дырэктар. Даруйце, але...

Гуга. Я нешта не разумею, пра якое «але» вы яшчэ тут гаворыце?

Дырэктар. Ды я не гавару пра «але»! Але я хацеў сказаць...

Гуга. Дык вы ўсё-такі хочаце сказаць «але»?

Дырэктар. Я зусім не хацеў гаварыць пра «але», але я...

Гуга. Можа, вы і не хацелі гаварыць «але», але вы хочаце сказаць «але», а гэтага больш чым досыць! Але мяне вы ніякім «але» ў зман не ўведзяце!

Дырэктар. Даруйце, але... колькі вам кавалкаў?

Гуга. Дваццаць чатыры. І не будзем з гэтым валтузіцца — цяпер не час гуляць у словы.

*Дырэктар, спалохана адступаючы, выходзіць; Гуга застаецца гаспадаром становішча: важна ходзіць сюды-туды па сцэне, разглядае ўсё з выглядам знаўцы і, нарэшце, адкрывае кош і пачынае грэбліва выкідваць з яго Дырэктаравы рэчы. З'яўляецца Ліквідатар з паперамі ў руцэ, збіраючыся ліквідоўваць.*

Ліквідатар. Дзень добры! Ну што, пачнём?

Гуга. Зразумела. Дзе тут сейф?

Ліквідатар. Гэта ў вас трэба спытацца!

Гуга. Добры дзень, дык вы тут не працуеце?

Ліквідатар. Ды вось збіраюся працаваць...

Гуга. А дзе вы працуеце?

Ліквідатар. У Ліквідацыйным камітэце. *(Працягвае руку.)* Ёзэф Долежал.

Гуга. І вы хочаце працаваць тут?

Ліквідатар. Я мушу працаваць тут...

**Гуга.** Што, Ліквідацыйны камітэт ліквідуецца? Гуга Плудэк.

**Ліквідатар.** Як гэта Ліквідацыйны камітэт ліквідуецца? Ёзэф Долежал.

**Гуга** *(працягвае руку)*. Гуга Плудэк. Можа, вы лічыце, што яго не трэба ліквідоўваць? Гуга Плудэк.

**Ліквідатар.** Прабачце! Усе мы ведаем, што Ліквідацыйны камітэт — гэта перажытак мінуўшчыны! Хоць і нельга адмаўляць, што ў перыяд барацьбы з істэрычнай атмасферай экстрэмізму ў дзейнасці Распарадчай службы Ліквідацыйны камітэт дзякуючы шэрагу прынятых мудрых мер адыграў, безумоўна, станоўчую ролю, але тым не менш мы б дакаціліся да сентыментальнага маразму...

**Гуга.** ...і бюракратычнага кансерватызму, калі б узяліся...

**Ліквідатар.** ...разглядаць работу Ліквідацыйнага камітэта па-за кантэкстам яго далейшай эвалюцыі, на працягу якой з прычыны неабдуманых крокаў, скіраваных на выкараненне шмат якіх станоўчых момантаў у дзейнасці Распарадчай службы...

**Гуга.** ...Ліквідацыйны камітэт адыграў, безумоўна, негатыўную ролю — у выніку дзеянняў паасобных ліквідатараў...

**Ліквідатар.** ...якія памалу захапіліся...

**Гуга і Ліквідатар** *(разам)*. ...адміністратыўным бокам ліквідацыйнай практыкі, шкодзячы яе зместаваму боку, у выніку чаго дзейнасць Ліквідацыйнага камітэта набыла нездаровы замкнёны характар, яе гвалтам адарвалі ад жыцця... *(Ліквідатар ужо не паспявае за Гугам.)*

**Гуга.** ...і акунулі ў застойную ваду закаснелага бюракратызму, што заканамерна праклала дарогу свавольству жменькі ліквідатараў, якія злоўжывалі...

**Ліквідатар.** ...разумным рашэннем...

**Гуга.** ...перапыніць вядомыя крайнасці ў дзейнасці Распарадчай службы і дэмагагічна нападалі на тыя яе пазітыўныя сілы, што пасляхова пераадолелі часовы крызіс, шырока актывізаваліся і зноў вывелі Распарадчую службу на пярэдні фронт нашай барацьбы за пераацэнку памылковых метадаў, галоўнай перашкодай якой, па сутнасці, стаў Ліквідацыйны камітэт, што само сабою літаральна падштурхнула нашую эпоху да адважнага ўчынку яго ліквідацыі. Гуга Плудэк.

**Ліквідатар.** Цалкам згодзен. Ёзэф Долежал.

**Гуга.** То я вам бы таксама параіў! *(Паказвае на рэчы,*

*якія ён сам толькі што раскідаў.)* Бачыце, які вэрхал? Гэта ўсё яны! Ліквідацыйны камітэт ліквідуецца, а яны тут спакойна ліквідоўваюць далей — як быццам нічога не адбылося!

Ліквідатар. Дык ці ліквідуецца ўсё-такі Распарадчая служба?

Гуга. Уявіце сабе! Ужо самі ледзь ліпеюць, а глядзіце, як разгарнуліся... Не хачу бачыць гэтага — сыходжу!

Гуга хутка і рашуча сыходзіць,
з'яўляецца Дырэктар з каваю,
убачыўшы Ліквідатара, дранцвее.

Дырэктар. Дзень добры...

Ліквідатар. Добры дзень...

Дырэктар. Памочнік?

Ліквідатар. Чый?

Дырэктар. Таго, хто тут ліквідуе...

Ліквідатар. Дазвольце! Я ж не збіраюся дапамагаць тым, якія тут разгарнуліся, хоць самі даўно ледзь ліпеюць.

Дырэктар выпускае з рук філіжанку і стаіць
як мыла з'еўшы.

Я ж разумею, што недарэчна ліквідоўваць у той час, калі Ліквідацыйны камітэт ліквідуецца. На тое, што гэтыя дзеянні абсурдныя, маю ўвагу звярнуў сам Гуга Плудэк.

Дырэктар. Хто гэта?

Ліквідатар. На жаль, дакладна не ведаю, але, па ўсім гледзячы, гэта нехта, хто мае самае непасрэднае дачыненне да ліквідацыі Ліквідацыйнага камітэта; магчыма, ён нават узначальвае яе!

Маўчанне.
Дырэктар павольна падымае філіжанку.

Ну, я пайду...

Дырэктар *(раптоўна ляпае Ліквідатару па спіне)*. Ды куды ты, хлопец, сабраўся? Сядай — пагамонім! Ну, расказвай — ты адкуль з'явіўся?

Ліквідатар. Ды я, ведаеце... так неяк... зайшоў паглядзець... пагаманіць... ну, я пайду...

Дырэктар *(зноў ляпае яму па спіне)*. Ды куды ты, хлопец, сабраўся? Сядай — пагамонім. Ну, расказвай — адкуль ты з'явіўся?

Ліквідатар. Ды я, ведаеце... так неяк... зайшоў паглядзець... пагаманіць... *(Раптам зрываецца.)* Божухна,

такой бяды! Ну, не ведаў я пра гэта — дык што з таго?

**Дырэктар** *(супакойвае яго)*. Божухна, такой бяды! Ну не ведаў ты пра гэта — дык што з таго?

**Ліквідатар** *(паспакайнеўшы)*. Ну, не ведаў я пра гэта — дык што з таго?

**Дырэктар.** Ну, не ведаў ты пра гэта — дык што з таго?

**Ліквідатар.** Такой бяды!

**Дырэктар.** Ды Божачка мой! Я ж твой кум, праўда?

**Ліквідатар.** Чё?

**Дырэктар.** Что мы-то вишь кумовья!

**Ліквідатар.** Ты про чё?

**Дырэктар.** Я про то, что кумовья мы друг другу. В натуре!

**Ліквідатар.** А чё ты хотел этим сказать?

**Дырэктар.** Вот, ей-Богу, делаешь вид, что не понимаешь! Что же, мы разве не дети одной славянской мамы?

**Ліквідатар.** Дети аль не дети... всё одно потопаю ликвидировать Ликвидационный комитет! «До відзэня, мама — и не грусти...»

Ліквідатар выходзіць.
Дырэктар па-змоўніцку азіраецца,
а пасля выцягвае з свайго стала два чучалы шпакоў
і ставіць іх на стол. З'яўляецца Гуга.
Дырэктар спалохана хавае птушак назад у стол.

**Гуга.** Што гэта вы робіце?

**Дырэктар.** Як што? Ліквідую...

**Гуга.** Ну, ты даеш, сябра мой! Ці я гэта добра пачуў? Хто ж ліквідуе тады, калі Ліквідацыйны камітэт ліквідуецца! Вы ж — дарослы чалавек, таму кіньце гэтыя хлапечыя гульні, далібог! Ці, магчыма, вам хочацца, каб я ўзняў гэтае пытанне наверсе? Калі вы з прычыны фальшывага геройства сабраліся выкапаць сабе магілу, дык і скажыце пра гэта — але тады я за сябе не ручаюся!

**Дырэктар.** Ды я ж ліквідую ліквідацыю! Ліквідацыю ліквідую!

**Гуга.** Добра каб! А што Долежал — уцёк?

**Дырэктар.** Уцёк, на жаль... але я, відаць, даганю яшчэ яго на сходах... мне бегчы?

**Гуга.** Я пайду падмагу хлопцам ліквідоўваць Ліквідацыйны камітэт, але вось забыўся спытаць, хто кіруе гэтай справай — напэўна, трэба ісці напрасткі па галоўнага!

**Дырэктар.** Плудэк.

**Гуга.** Які? Гуга?

Дырэктар. Ён, ён.

Гуга. Добра. Пайду да яго! Спадзяюся, ты тут не будзеш біць у хамут! Я ўвогуле табе сімпатызую, і мне б не хацелася брацца за цябе так, каб ты адсюль вылецеў ваўчком! Усяго!

Гуга рашучай хадою накіроўваецца за кулісы, але адразу ж вяртаецца па свой кардонны нос, надзявае яго і знікае. Дырэктар нейкі час глядзіць яму ўслед, пасля высоўвае язык, а потым зноў з бояззю выцягвае сваіх шпакоў, ставіць іх на стол і раптоўна пачынае раз'юшана лупіць па іх кулакамі. З'яўляецца Ліквідатарка.

Ліквідатарка. Ізноў птушак ганяеце?

Дырэктар. Прабачце... прабачце...

Дырэктар спехам спрабуе схаваць чучалы, але Ліквідатарка адбірае іх і кідае ў кош.

Ліквідатарка. Як вам не сорамна! Па-вашаму, мы не стаміліся? Але ўсе мы павінны вытрымаць гэта! Ці быў тут Пэпік?

Дырэктар. Долежал?

Ліквідатарка. Ага.

Дырэктар. Ужо ўцёк.

Ліквідатарка. Ваша шчасце — вы мужчына! *(Выбухае плачам.)*

Дырэктар. Ці не пабудзеце са мною яшчэ крыху? Так сказаць, неафіцыйна. Вам трэба крыху б адысці ад працы, бо вы ж таксама чалавек, і толькі!

Ліквідатарка. Хам!

Ліквідатарка рашуча выходзіць.

Дырэктар. Так доўга ходзіць з кашом і ліквідуе, што недзе і забудзецца! Ну і добра: цяпер я маю месца, дзе можна падрамаць...

Дырэктар залазіць у кош; з'яўляецца Ліквідатарка.

Ліквідатарка. Срэбны вецер звініць, як звінеў раней...

Дырэктар. Дарамі жыцця адорвае нас!

Ліквідатарка ўступае ў кош, нібы ў рэчку. На кош павольна апускаецца накрыўка.

# ДЗЕЯ ЧАЦВЁРТАЯ

Зноў кватэра Плудэкаў.
Плудэк і Плудкава, абое ў начных уборах.

Плудэк. Дык вось, пра Японію...— дарэчы, колькі ў нас часу?

Плудкава. Неўзабаве будзе шостая. Ці чуеш?

Плудэк. Час бы яму ўжо з'явіцца. А?

Плудкава. Пэўна, яго нешта затрымала. Ці не крокі там чуваць?

Плудэк. Як гэта — затрымала? Гэта вецер! Дык вось, пра Японію...

Плудкава. Можа, перабраў на свяце ў садзе... Твая праўда, гэта проста вецер.

Плудэк. Ён п'е адно малако, а яго там, вядома ж, не налівалі! І ўсё-такі, здаецца, там чутны крокі? Дык вось, пра Японію...

Плудкава. Чаму не налівалі? Ёсць жа малочныя бары, значыцца, могуць быць і малочныя святы ў садзе! І праўда, здаецца, крокі чуваць?

Плудэк. А я і не здагадаўся — напэўна ж, ён проста напіўся, гэта яго і затрымала! Хто б гэта мог тупаць у нашай каморы? То вецер.

Плудкава. Што, у каморы? Я сама там увечары зачыняла акно!

Плудэк. Значыць, крокі? Ану, схаджу туды! Дык што гэта я хацеў сказаць пра Японію? *(Выходзіць за сцэну і стукае ў дзверы.)* Паўтараю: хто там? Хто там? Паўтараю: зараз жа адчыніце! Зараз жа адчыніце! *(Рыпенне дзвярэй.)* Госпадзе Божа ты мой!

На сцэне, спалохана адступаючы, з'яўляецца Плудэк.
За ім з вінаватым выглядам ідуць Амалька і Пётра — на абаіх толькі спехам накінутыя паліто.

Плудкава. Госпадзе Божа ты мой! Што вы тут робіце?

Амалька. Пані, вам тэлеграма!

Плудэк. Чытайце ж!

Амалька *(чытае)*. ДАРАГІ ОЛДРЖЫХ КСК РАДАСЦЮ ДАВЕДАЎСЯ КСК ШТО ТВАЙМУ СЫНУ ГУГУ ДАВЕРАНА КІРАЎНІЦТВА ЛІКВІДАЦЫЯЙ ЛІКВІДАЦЫЙНАГА КАМІТЭТА КРП Ці паспелі вы, Ганначка? А дванаццатай і рушым. Не трэба, я прыхаплю

вяндліну ва ўласным соку. З ГЭТАЙ НАГОДЫ РАДЫ ПАВІНШАВАЦЬ З ЦУДОЎНЫМ ПОСПЕХАМ КРП Ці праўда, што вы яшчэ ніколі не ездзілі ў Нэспекі? Калька? У стале ў Гірша. А якія лясы! Пішыце: ТРЭБА БЫЛО Б КАЛІ-НЕБУДЗЬ СУСТРЭЦЦА КРП Не забудзьцеся... ТВОЙ ФРАНТА КАЛАБІС КРП... пра купальнік!

Плудкава. Ці чуў ты, Олдржых? Ліквідацыя Ліквідацыйнага камітэта!

Плудэк. Чуў, Бажэна. Вось Яраш хацеў стаць ювелірам — і стаў. Гуга сам у сябе спытаўся — і калі ласка: «рады павіншаваць з цудоўным поспехам». Дык вось, пра Японію...

Плудкава *(Амальцы)*. Што вы, уласна, рабілі цэлую ноч у гэтай каморы?

Амалька. Разбіралі пошту. Бывайце.

Амалька і Пётра выходзяць у розныя кулісы.

Плудкава. Паслухай, Олдржых...

Плудэк. Што?

Плудкава. З Гугам усё так добра атрымалася — можа, варта паклапаціцца і пра Пётру? Ён жа ўсё-такі таксама нашае дзіцятка...

Плудэк. Увапхнём яго куды-небудзь у рэдакцыю.

Плудкава. А нічога, што ён мае выгляд, як у буржуазнага інтэлектуала? Хоць бы ён ужо акуляраў не насіў!

Плудэк. Інтэлектуала ў іх там ніводнага няма, так што яны скажуць: лепей буржуазны, чым ніякі, ён хоць у палітыцы разбіраецца! А на акуляры цяпер ніхто не глядзіць! Здаецца, звоняць?

Плудкава. Ды не.

Чуцён званок.

Плудэк. Гэта Гуга!

Плудкава. Ну, нарэшце!

З'яўляецца Гуга, у яго на пераноссі той самы кардонны нос.

Я ведала, што Гугачак не прападзе!

Плудэк. Рупны хлопец! Ты б яму што-небудзь дала ў дзюбу!

Плудкава. А чаго б гэта? Малачка?

Плудэк. Лепш кавачкі: ён, бедны, відаць, цэлую ноч не спаў!

Плудкава. Не спаў, затое мае карысць з гэтага! Хто

ведае, Олдржых, ці захоча ён з намі і размаўляць, калі ў яго такая важная пасада!

Гуга. Ён і для простага люду знойдзе добрае слова. Я сам на гэта толькі і спадзяюся, бо я зайшоў да яго крыху пагаманіць, а можа, і памагчы яму. Я, ведаеце, адразу да каваля! Дык кавачка будзе ці не?

Плудкава. Будзе-будзе, як толькі Гугачак прыйдзе...

Гуга. А што, яго яшчэ няма?

Плудэк. Напэўна, затрымаўся на ліквідацыі...

Плудкава. Ліквідоўваць Ліквідацыйны камітэт — гэта вам не жарты!

Гуга. Што, ваш Гуга ліквідуе тады, калі Ліквідацыйны камітэт ліквідуецца?

Плудэк. Жонка не тое мела на ўвазе! Яна адно хацела сказаць, што Гугу не варта было б займацца гэтай ліквідацыяй.

Гуга. А хто б тады ліквідоўваў Ліквідацыйны камітэт?

Плудэк. Наш Гуга.

Гуга. Дык ваш Гуга ўзяўся б ліквідоўваць тады, калі Ліквідацыйны камітэт ліквідуецца?

Плудкава. Муж не тое меў на ўвазе! Ён адно хацеў сказаць, што Гугу не варта было б займацца гэтай ліквідацыяй.

Гуга. А хто б тады ліквідоўваў Ліквідацыйны камітэт?

Плудкава. Наш Гуга.

Плудэк. Вядома ж...

Плудкава. А чаму б нашаму Гугу ліквідоўваць тады, калі Ліквідацыйны камітэт ліквідуецца?

Плудэк. А хто б тады ліквідоўваў Ліквідацыйны камітэт?

Плудкава. Наш Гуга.

Плудэк. А чаму б нашаму Гугу ліквідоўваць тады, калі Ліквідацыйны камітэт ліквідоўваецца?

Плудкава. А хто б тады ліквідоўваў Ліквідацыйны камітэт?

Плудэк. Наш Гуга.

Плудкава. Вось гэта тое, што трэба!

Плудэк. Але ніхто нічога пра гэта не павінен быў бы ведаць!

Плудкава. Гэткага не схаваеш!

Плудэк. Гугу не трэба было даваць згоду на ліквідацыю!

Плудкава. Калі б ён на яе не даў згоды, дык Ліквідкам не быў бы ліквідаваны і ліквідацыі доўжыліся б, але толькі

без Гугі... А чаму б аднаму Гугу не ліквідоўваць? Добра, што ён не адмовіўся!

Плудэк. Калі ён не адмовіўся, Ліквідацыйны камітэт будзе ліквідаваны, ліквідацыі скончацца і адзін Гуга будзе і далей ліквідоўваць! Дык яго ж затыркаюць!

Плудкава. Трэба было адмовіцца!

Плудэк. Наадварот: трэба было не даваць згоды!

Плудкава. Наадварот: трэба было не адмаўляцца!

Плудэк. Можа, трэба было адначасова даць згоду і не адмаўляцца?

Плудкава. Хутчэй адмовіцца і не даць згоды!

Плудэк. Тады ўжо лепш не даваць згоды, не адмаўляцца, а даць згоду і адмовіцца!

Плудкава. А ці нельга было адначасна адмаўляцца, не даваць згоды, але не адмовіцца і даць згоду?

Плудэк. Цяжка сказаць. А як па-вашаму?

Гуга. Па-мойму? Ну, па-мойму, не трэба было не даваць згоды, не адмаўляцца, а даць згоду і адмовіцца — і разам з тым адмаўляцца, не даваць згоды, але не адмовіцца і даць згоду. Ці наадварот. Здаецца, звоняць?

Плудэк. Не. *(Звініць званок.)* Гэта Гуга!

Плудкава. Ну, нарэшце!

З'яўляюцца Амалька і Пётра.

Амалька *(чытае)*. ДАРАГІ ОЛДРЖЫХ КСК МНЕ СТАЛА ВЯДОМА КСК ШТО ЛІКВІДУЕЦЦА РАСПАРАДЧАЯ СЛУЖБА І КІРАЎНІЦТВА ГЭТАЙ АДКАЗНАЙ ЛІКВІДАЦЫЯЙ ДАРУЧАНА ТВАЙМУ ГУГУ КРП Ці паспела, Гануля? Што? Такой бяды, крыху пакапала па дарозе назад! Не, пакуль будзем у Браніка... ПРАШУ ПЕРАКАЗАЦЬ ЯМУ МАЕ НАЙСАРДЭЧНЕЙШЫЯ ВІНШАВАННІ ГЭТЫМ ВЫДАТНЫМ ПОСПЕХАМ КРП То ж бо і яно, дзяўчынка, то ж бо і яно! А я хіба не? Разводзіцца яна згоды не дасць. ОЛДРЖЫХ КСК ТРЭБА ЯК НАЙХУТЧЭЙ СУСТРЭЦЦА І ПАГУТАРЫЦЬ КРП Зразумей: у мяне дзеці! ПАМЯТАЕШ КСК ШТО МЫ РАЗАМ РАБІЛІ ХЛАПЧУКАМІ ПЫТ — Увага, ідзе Гірш! ТВОЙ ФРАНЦІШАК КРП

Плудкава. Ці чуў ты, Олдржых? Ліквідацыя Распарадчай службы!

Плудэк. Чуў, Бажэна. Як Яраш казаў? Жыццё — гэта кніга з чыстымі аркушамі. Гуга ведаў, чым яе запоўніць і — калі ласка: «найсардэчнейшыя віншаванні выдатным поспехам». Дык вось, пра Японію...

**Плудкава** *(Амальцы)*. Ці вы гэтую пошту цэлую ноч разбіралі? У цемры?

**Амалька.** У нас перагарэла лямпачка...

**Плудкава.** Лямпачка! Адным словам, калі вы пасля гэтага не ажэніцеся з Пётрам...

**Амалька.** Мы якраз і хочам пажаніцца...

**Плудкава.** Бедная дзяўчына! Дык ён жа буржуазны інтэлектуал!

**Амалька.** Пётра будзе вывучаць мікрабіялогію! Бывайце!

Амалька і Пётра выходзяць у розныя кулісы.

**Плудкава.** Паслухай, Олдржых...

**Плудэк.** Што?

**Плудкава.** Ці чуў ты?

**Гуга.** Дык ваш Гуга ліквідоўвае не толькі Ліквідацыйны камітэт, але яшчэ і Распарадчую службу?

**Плудэк.** І мае рацыю! Гэтыя ўстановы трэба было ліквідоўваць як мага хутчэй, бо абедзве яны — перажыткі мінулага! Ці не так?

**Гуга.** Усе мы, ведаеце...

**Плудкава.** Зразумейце — жонка не мела на ўвазе, што няможна ліквідаваць Распарадчую службу, захаваўшы Ліквідацыйны камітэт, або ліквідаваць Ліквідацыйны камітэт, захаваўшы Распарадчую службу — грунтуючыся на стратэгічных меркаваннях...

**Гуга.** Усе мы, ведаеце...

**Плудэк.** Ведаеце... што ведаем?..

**Гуга.** Дык зразумейце: усе мы, ведаеце, у гэтую бурлівую эпоху шукаем так неяк сваё месца. Здаецца, звоняць?

**Плудэк.** Не! *(Звініць званок.)* Гэта Гуга!

**Плудкава.** Ну, нарэшце!

З'яўляюцца Амалька і Пётра.

**Амалька** *(чытае)*. ДАРАГІ, ШАНОЎНЫ ОЛДЎРЖЫХ! ТЫ НЕ ЎЯЎЛЯЕШ САБЕ, З ЯКОЙ РАДАСЦЮ Я ДАВЕДАЎСЯ, ШТО ТВАЙМУ ГУГУ — яшчэ ўчора была поўная скрыня колькі крп я яе не з'еў клчн што пыт а футра не хочаце пыт пішыце — ДАРУЧАНА ВЫКЛЮЧНА ВАЖНАЕ І АДКАЗНАЕ ЗАДАННЕ СТВАРЫЦЬ НА МЕСЦЫ БЫЛОГА ЛІКВІДАЦЫЙНАГА КАМІТЭТА І БЫЛОЙ РАСПАРАДЧАЙ СЛУЖБЫ НОВУЮ БУЙНУЮ ЎСТАНОВУ, ЦЭНТРАЛЬНУЮ КАМІСІЮ ПА РАСПАРАДЧАСЦІ І ЛІКВІДАТАРСТВЕ — не магу трываць кск

калі жанчына румзае клчн ах кск ты Божа мой клчн — ПРАШУ ПЕРАКАЗАЦЬ ЯМУ САМАЕ ГАРАЧАЕ БРАТНЯЕ ПРЫВІТАННЕ З ВЫПАДКУ ГЭТАГА НАЙВЯЛІКШАГА ПОСПЕХУ КЛЧН я не веру вам клчн а калі так кск дык трэба пазбавіцца гэтага клчн — СТРАШЭННА СУМУЮ ПА ТАБЕ — АЖ НЕ МАГУ КЛЧН шантажыраваць мяне я не дазволю кск гэта я вам кажу з усёй адказнасцю клчн — ТВОЙ СТАРЫ — падманшчыца клчн — ВЕРНЫ — дзеўка клчн — ФРАНТА КРП качка дурная клчн.

Плудкава. Ці чуў ты, Олдржых? Стварыць Цэнтральную камісію па распарадчасці і ліквідатарстве.

Плудэк. Чуў, Бажэна. Яраш заўсёды думаў пра сваю будучыню і таму вучыўся, вучыўся, вучыўся. Гуга таксама думаў — і, калі ласка: «братняе прывітанне з выпадку найвялікшага поспеху»! Дык вось, пра Японію...

Плудкава *(Амальцы)*. Пётра — і мікрабіялогія? Недарэчнасць! Прадстаўнік сярэдніх класаў не можа займацца гэткай лухтой!

Амалька. Мы з Пётрам кахаем адно аднаго, і Пётра пераязджае да мяне! Пётра, хадзем!

Пётра. Бывайце!

Амалька і Пётра бяруцца за рукі і, поўныя пафасу, выходзяць.

Плудкава. Паслухай, Олдржых...

Плудэк. Што?

Плудкава. Ці чуў ты, як ён на нас разявіў зяпу?

Плудэк. Бажэна, штосьці мне падказвае, што мы страцілі сына. Але штосьці іншае дадае, што зусім няблага будзе мець за нявестку дворнікаву дачку, хо-хо!

Плудкава. Дворнік — гэта ўсё-ткі працоўны клас...

Плудэк. Што праўда, не непасрэдна — але ў кожным выпадку ён пра працоўны клас ведае добра.

Плудкава. Што ж, перамаглі нас Амалька з мікрабіялогіяй! Цяпер у нашай сям'і адно спадзяванне — Гуга. Дык што ўсё-ткі ты хацеў сказаць пра Японію?

Плудэк *(Гугу)*. Паслухайце, а хто вы, уласна, такі?

Гуга. Я? Гэта я хто такі? Ну дык вось, я прымітыўных просталінейных пытанняў не люблю. Кажу вам без жартаў! Хіба так наўпрост ставяць пытанні? Бо тут як ні адказвай, мы ніколі не высветлім усяе праўды, але толькі яе абмежаваную частку: чалавек — з'ява настолькі багатая, складаная, зменлівая і шматаблічная, што не існуе слоў, сказаў, кніг, не існуе нічога такога, што можа яго ў поўным аб'ёме

ахапіць і апісаць. У чалавеку няма нічога трывалага, вечнага, абсалютнага, ён увесь — няспынны рух, і гэта, між іншым, гучыць годна! А наш час — гэта не час статычных, нязменных катэгорый, калі А было А, а Б заўсёды толькі Б; сёння мы ведаем, што А часцяком можа быць Б, а Б адначасна А, што Б хоць можа быць Б, але яшчэ і А або В, гэтаксама як В можа быць не толькі В, але і В, Б або Г, а пры пэўных варунках Ж можа быць Ф, О, а часам і Ы! Вы, напэўна, і самі адчуваеце: таго, што вы адчуваеце сёння, вы не адчувалі ўчора, а тое, што вы адчувалі ўчора, вы хоць не адчуваеце сёння, але, мажліва, будзеце адчуваць заўтра, ну а ўжо таго, што вы будзеце адчуваць паслязаўтра, вы хутчэй за ўсё яшчэ наогул ніколі не адчувалі! Ці вы гэта адчуваеце? І няцяжка зразумець, што тыя, якія сёння бачаць толькі сёння, толькі паўтараюць тых, якія ўчора бачылі толькі ўчора, у той час як мы ведаем, што сёння трэба бачыць так неяк і тое, што было ўчора, бо хто ведае, ці не вернецца гэта заўтра! Праўда гэтаксама складаная і шматаблічная, як і ўсё на гэтым свеце: магніт, тэлефон, паэзія Браніслава, магніт...— і ўсе мы так трохі тое, што было ўчора, і так трохі тое, што ёсць сёння, а трохі мы і не тое, і не гэтае; і ўвогуле мы заўсёды так трохі мы, а так трохі і не мы, гэтак што кожны з нас не зусім ёсць і кожнага зусім няма; пытанне толькі ў тым, калі лепш болей быць і меней не быць, а калі, наадварот, лепш меней быць і болей не быць; зрэшты, таго, хто занадта ёсць, неўзабаве можа зусім не быць, а той, хто ў пэўнай сітуацыі здолее ў неабходнай меры не быць, у іншай сітуацыі тым лягчэй зможа быць. Я не ведаю, ці хочаце вы болей быць або болей не быць і калі вы хочаце быць, а калі — не быць, але я хачу быць заўсёды, і таму я заўсёды павінен так трохі не быць — бо калі часам чалавека так трохі няма, нічога яму ад гэтага не зробіцца! І няхай у гэтай хвілі я ўсяго толькі нешта зусім малое, магу вас запэўніць, што, мажліва, хутка я буду нашмат большы, чым калі-кольвечы быў — і тады мы зноў зможам пра ўсё гэта пагаварыць, але ўжо з іншых пазіцый! Мат!

Гуга выходзіць.

Плудкава. Паслухай, Олдржых...
Плудэк. Што?
Плудкава. Няблага было сказана, га?
Плудэк. Цудоўна было сказана! А ведаеш чаму?
Плудкава. Чаму?
Плудэк. Бо, відавочна, у яго ў крыві здаровая філасо-

фія сярэдніх класаў! Сама ведаеш — да Кутнай гары без галёш і Яраш не дойдзе. Ды куды там! *(Пяе.)* Народ наш чэшскі загінуць не можа, любыя беды ён пераможа!

Плудкава. Каб толькі японцаў тут не панабегла: тады па нас ніводзін сабака не завые!

З шафы чутно сабачае выццё.

Плудэк. Божка, яны ўжо тут!

З шафы вылазіць Пыльзак і выходзіць да рампы.

Пыльзак *(у залу)*. А зараз давайце так неяк без лішніх дыскусій разыходзіцца!

КАНЕЦ